ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
9 ЛЮТАГА 1996 г. № 6 (3830) Кошт 2 500 руб.







# ЦЯГНІК У ЕЎРОПУ...

У памяшканні Нацыянальнага мастацкага музея, "на галерэі", з 12 па 31 студзеня працавала выстава "Беларускі нацыянальны касцюм". Аўтар выставы, чалавек, які, без перабольшання, вядомы ў колах нацыянальнай інтэлігенцыі — Міхась Раманюк, прафесар, загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў.

Па сваёй значнасці для нацыянальнай культуры беларусаў гэта выстава магла б прэтэндаваць на перамогу ў намінацыі "ўнёсак у нацыянальную культуру", стаць выставай дзесяцігоддзя.

Пры вызначэнні этнічнай самасвядомасці народа адзенне ("Касцюм", "строі") займае другое месца па значнасці пасля мовы (праўда, этнамузыколагі на другое месца ставяць народную музыку). Як музыка складаецца з сямі нот, так і гмах нацыянальнай культуры складаецца з некалькіх падставовых першаэлементаў, сярод якіх — адзенне.

Наш вопыт даводзіць, што мову, адзенне вывучаць можна па-рознаму: акуратна ўсё занатаваць (якімі ніткамі прышыты гузікі і т. п.), апісаць, словам, выканаць усе фармальныя патрабаванні, а атрымаецца шэра, нецікава, бяскрыла. Нібыта ўсё правільна, а прадмет даследавання (адзенне) і сам народ-творца выглядаюць бяздарным і ўбогім. Варта паглядзець "дараманюкоўскія" выданні па народным адзенні, каб у гэтым пераканацца.

*(Працяг на стар. 11)*





*На здымках:*
*Народныя строі беларусаў. Мастацка-этнаграфічная карта;*
*Міхася Раманюка віншуюць з вернісажам рэктар Беларускага універсітэта культуры прафесар Ядвіга Грыгаровіч і былы міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч;*
*У зале выставы.*

ФОТА Віт. АМІНАВА

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Чытаем газеты, глядзім тэлевізар, сочым наогул за жыццём краіны — палітычным, эканамічным, сацыяльным і г. д. — і паступова нараджаецца і ўмацоўваецца пачуццё, што трымаецца ўсё ў нас на тонкім-тонкім валаску, які вось-вось можа абарвацца. Эканоміка дыхае на ладан, прадпрыемствы запушчаны да стану не запушчальных, прадпрымальніцтва пакладзена на лапаткі, народ абкрадзены, абдураны, зняверань, дэнацыяналізаваны, дэмаралізаваны... Палітыка і палітыкі ў мірны час заблыталіся ў трох бярозах (чацвёртая — знішчана, як мы памятаем, вайной), прэзідэнт нічога новага, апроч незабытага старога, прапанаваць не можа, партыі альбо не рашаюцца пераходзіць у адкрытую апазіцыю ўладам, альбо не маюць сіл для гэтага, альбо, зноў жа, не могуць прапанаваць ідэй (акрамя, вядома, знясслаўленай нацыянальнай), якія маглі б з'яднаць у адзін народ насельніцтва Беларусі... Словам, танюсенькі валасок, які трымаецца выключна на цярплівасці, талерантнасці, працавітасці беларускага народа, у любы момант можа абарвацца. І паляцім мы тады ў такую бездань, такую прорву, у якую не падаў яшчэ ніводзін народ у свеце... Песімізм? Гора-прароцтва? А вы агледзьцеся. І паразважайце самі.***

## ПРАЖЭКТ ТЫДНЯ

Наш прэзідэнт не стамляецца пераконваць замежных журналістаў у неабходнасці стварэння дзяржаўнага аб'яднання на аснове Беларусі і Расіі. У сваім апошнім інтэрв'ю ў прамым эфіры расійскаму радыё-1 ён намаляваў перспектывы стварэння такога саюза дзвюх гэтых дзяржаў — "якога не бачыў свет, яшчэ больш магутнага, чым Савецкі Саюз". Расія без рэспублік былога СССР, сказаў наш прэзідэнт, — як тулава без ног, без рук і без галавы. У якасці апошняй часткі цела, пэўна, і прапануецца Беларусь. І куды ж пакоіцца тулава з галавой, але без ног і рук?.. Сумна, спадары... Сумна яшчэ і ад таго, што гэтая інфармацыя на поўным сур'ёзе перадаецца вядучым тэлеграфным агенцтвам краіны, чытаецца па радыё, друкуецца ў газетах.

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Парламенцкая фракцыя "Грамадзянскае дзеянне" выступіла з прапановай аб кампенсацыі ўкладаў грамадзян у Ашчадным банку, якія былі "з'едзены" інфляцыяй, пачынаючы з 1991 года. Пераацэнка ўкладаў павінна адбывацца па тагачасным рынкавым курсе рубля да долара — 5:1, альбо 20:1, лічаць эксперты. На грошы, якія будуць кампенсаваны, грамадзяне змогуць атрымаць каштоўныя паперы, а на іх можна будзе купляць акцыі прыватызаваных прадпрыемстваў, крамы, жыллё... Такім чынам кампенсацыя можа адбыцца без "дадатковага ўключэння друкарскага станка", а значыць, не выкліча новага вітка інфляцыі. Прапанова фракцыі Багданкевіча павінна быць разгледжана на пасяджэнні Вярхоўнага Савета. Парламенту вырашаць — прымаць яе ці не, і калі прымаць, то ў якім выглядзе.

## АДМОВА ТЫДНЯ

На міжнародны эканамічны форум у швейцарскі Давос з'ехаліся на мінулым тыдні кіраўнікі дзяржаў Еўропы, буйнейшыя прамыслоўцы і бізнесмены. Беларусь прадстаўлялі на ім старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі і прэм'ер-міністр М. Чыгір. Меркавалася, што нашую дэлегацыю ўзначаліць прэзідэнт А. Лукашэнка, аднак за дзень да ад'езду ў Давос ён, у сувязі з "надзвычайнай занятасцю" і "падрыхтоўкай да візіту ў Маскву", даручыў ехаць прэм'ер-міністру. Газета "Свабода" тлумачыць гэтае рашэнне прэзідэнта іншай прычынай: усе замежныя кіраўнікі, якім было прапанавана сустрэцца з А. Лукашэнкам, адмовіліся ад гэтага, бо Беларусь заходнія інвестары не лічаць выгадным рэгіёнам для ўкладання сваіх грошай. Пацвярджэнне таго — амаль нулявы эфект ад нядаўніх сустрэч нашага прэзідэнта з амерыканскімі і нямецкімі бізнесменамі, неўключэнне Беларусі ў пералік дзяржаў, якія прыцягваюць замежныя інвестыцыі, у штогадовым дакладзе Сусветнага банка і інш. Захад можна зразумець. Але такая палітыка падштурхоўвае Беларусь у абдымкі Расіі. Добра, што тая пакуль адварочваецца ад беднай незалежнай сваячкі. Пакуль...

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Толькі на першы погляд нас падзяляе многае: партыі, ідэі, канцэпцыі, дактрыны і інш. Але гэта толькі на першы погляд. З пункту гледжання вечнасці, жыцця і смерці, гора і шчасця народа нашы разыходжанні выглядаюць дробязна, міззэрна, і не заўсёды прынцыпова. Па вялікім рахунку нам няма чаго дзяліць. У нас адно і тое ж паходжанне, адзін і той жа лёс, адна і тая ж Радзіма. Мы ўсе дзеці гэтай зямлі, каранямі прырослыя да яе. Як тут не ўспомніць запавет вялікага Ф. Скарыны, які з болем у сэрцы сцвярджаў, што калі ідэалогія, погляды, нават вера падзяляюць нацыю, жыццём ірвуць не на кавалкі, дык яны рашуча павінны быць адкінуты. На першае месца павінна выйсці асэнсаванне таго, што ўсе мы: беларусы, рускія, яўрэі, палякі, украінцы, татары — складаем народ Беларусі, з'яўляемся грамадзянамі нашай дзяржавы, у якіх ёсць замацаваныя Канстытуцыяй не толькі аднолькавыя правы, але і абавязкі".

*(З артыкула старшыні парламенцкай Камісіі па міжнародных справах П. Краўчанкі "А ці будзем мы жыць? Веру — будзем!" у "Народнай газеце" за 6 лютага г. г.)*

## ПЕРАСЦЯРОГА ТЫДНЯ

Пайшлі чуткі, што дэпутаты парламента збіраюцца стварыць спецыяльную камісію дзеля праверкі дзейнасці Кіраўніцтва спраў прэзідэнта, якое ўзначальвае І. Ціцянкоў. Не таму на мінулым тыдні Іван Іванавіч сабраў прэс-канферэнцыю. Максімальна вызваліць бюджэт ад затрат на ўтрыманне апарату прэзідэнта — вось галоўная задача, з якой паспяхова спраўляецца КСП, упэўніліся журналісты. Аднак пытанні да І. Ціцянкова ўсё ж засталіся. І ў першую чаргу па "прыватызацыі" шэрагу будынкаў у цэнтры беларускай сталіцы (усяго іх у КСП ужо 140), аўтабазы ВС, залеведнікаў і санаторыяў і іншай усенароднай уласнасці, якая стала прэзідэнцкай. Калі справы там ідуць так цудоўна, як расказвае Іван Іванавіч, дык, можа, пара і за дзяржаву Беларусь брацца?

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Мужчынская зборная Беларусі па біятлону стала чэмпіёнам свету ў каманднай гонцы на 10 км. Даўно чаканы перамогі заўсёды прыходзяць нечакана. Але дзякуючы ім, на спартыўнай карце свету незалежная дзяржава Беларусь існуе трывала.

**P. S.** На заканчэнне, каб падкінуць аптымізму ўладам і забыць пра песімізм уступу да "Кола дзён", прыгадаем адну старую показку: "Акупанты павесілі беларуса. Прыходзяць да шыбеніцы назаўтра — а ён жывы. Прыходзяць праз тыдзень — жывы. Праз месяц — жывы. Пытаюцца тады акупанты ў беларуса, як жа яму ўдалося выжыць. "Ат, — адказвае беларус, — спачатку муляла трохі вяроўка, а потым прыцярпеўся..."



*З нагоды*

# ХОПІЦЬ ПАБІРАЦЦА!

Нагадаю стары анекдот. Прыходзіць Іван да суседа Абрама, просіць пазычыць рубель, абяцае праз месяц вярнуць два, а ў залог пакідае сякеру. Абрам бярэ сякеру, дае рубель і кажа: "Слухай, табе ж цяжка будзе аддаваць адразу два рублі?" — "Так, цяжка". —"Ну дык ты палову доўга мне зараз аддай". Іван згаджаецца. Аддае рубель і ідзе дадому. Дома, чухаючы патыліцу, робіць рэзюме: "Грошай няма. Сякеры — таксама. Яшчэ рубель Абраму вінен. І галоўнае, што ўсё правільна!"

Калі ў гэтай показцы сёе-тое замяніць, скажам — імёны, атрымаецца дакладная мадэль "братэрскіх" расійска-беларускіх стасункаў. Сваю "сякеру" (маючы сякеру, рубель можна зарабіць, а не пазычыць) — жыццяздольныя прадпрыемствы, нафта- і газаправоды, транспартныя шляхі; нарэшце — палітычны капітал (суверэнітэт, нейтралітэт, бяз'ядзерны статус) аддаём у "залог" суседу пад грошы (у дадзеным выпадку — пад танныя энерганосьбіты і пропуск на расійскі рынак нашых няякасных тавараў), якіх так і не атрымалі і, відавочна, ніколі не атрымаем. Да таго ж, яшчэ аказаліся немаведама колькі суседу вінны і немаведама, ці сплацім "доўг".

Між тым, кіраўніцтва Беларусі ці то робіць выгляд, ці то сапраўды лічыць, што "ўсё правільна".

Сказаць, што наша краіна трапіла ў такі стан, "дзякуючы" палітыцы прэм'ера Кебіча, якую сёння працягвае прэзідэнт Лукашэнка, будзе праўдзіва. Ды гэта не ўся праўда. І Кебіч у свой час меў падтрымку ў немалой часткі насельніцтва, і Лукашэнка — усенароднаабраны. А за выбар трэба плаціць, за кепскі выбар — тым болей. Дарэчы, воля народа, на якую часта любяць спасылацца палітыкі, не ёсць ісціна ў апошняй інстанцыі. Калі дзяржаўны дзеяч апраўдвае свае не лепшыя, а то і памылковыя дзеянні тым, што выконвае волю народа, ён становіцца падобным на афіцыянта, які лічыць, што "кліент заўжды мае рацыю", і, выконваючы волю кліента, падлівае яму ў чарку, хоць той ужо не трымаецца на нагах. Бо п'яны плаціць, нават не зазіраючы ў рахунак...

Сённяшнія стасункі Беларусі з Расіяй маюць доўгую перадгісторыю і чымсьці нагадваюць адносіны паміж шэрагам краін Лацінскай Амерыкі са Злучанымі Штатамі. Гэта значыць, што пры захаванні фармальнага суверэнітэту ва ўсіх галінах сацыяльнага, эканамічнага і культурнага жыцця адчуваецца не толькі ўплыў, не толькі абрыдлая прысутнасць, але часам і "цяжкая рука" вялікага суседа. Прэзідэнт такой краіны ведае, што са "сваім" народам можна рабіць усё, што заўгодна, але вялікага суседа трэба шанаваць. У такой краіне прэзідэнт — гэта больш чым першы чыноўнік дзяржавы. Ён — правадыр, "каудыльо". Іншы раз ён займае пасаду законным шляхам, у выніку выбараў, іншы раз — абапіраючыся на войска. Але заўжды на хвалі народнай нянавісці да папярэдняга рэжыму. "Каудыльо"



# НА РАДЗІМЕ КАСЦЮШКІ



250 год назад нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Касцюшка — змагар за свабоду, чыё імя прагрымела ў Старым і Новым свеце. Ён быў апошнім абаронцам адыходзячай у гістарычны нябыт шляхецкай дэмакратыі Рэчы Паспалітай — агульнай дзяржавы ліцвінаў (беларусаў), жамойтаў, палякаў і ўкраінцаў. Ён жа аддаў свой талент ваяра і палітыка новай дэмакратыі, стаўшы ў шэрагі абаронцаў незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі.

4 лютага ў Марачоўшчыне пад Косавам да месца, дзе стаяў дом, у якім нарадзіўся наш нацыянальны герой, былі ўскладзены вянкі і кветкі ад дэмакратычных арганізацый. Да святыні людзі прыйшлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Калі-небудзь на гэтым месцы будзе помнік. Святкаванне 250-годдзя з дня нараджэння А. Т. Касцюшкі працягнецца ў сталіцы, у Музеі гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальнай бібліятэцы. Плануецца правесці навуковую сесію і выставу твораў беларускіх мастакоў.

**П. В.**

# НАЗНАЧАНЫ НОВЫ МІНІСТР КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

Указам Прэзідэнта назначаны новы міністр культуры Рэспублікі Беларусь. Ім стаў Аляксандр Уладзіміравіч Сасноўскі, які працаваў дагэтуль намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкома.

Аляксандр Сасноўскі нарадзіўся ў 1949 годзе. Беларус. У 1977 годзе скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у 1993-м — Акадэмію кіравання пры Савеце Міністраў. З 1981-га па 1986 год працаваў намеснікам дырэктара ПТВ-147, а затым — дырэктарам мінскага ПТВ-114. Са студзеня 1991 года А. Сасноўскі — намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома па пытаннях культуры, адукацыі, моладзі і рэлігіі.

**Андрэй СЕРАДА, БелаПАН**

Леанід ГАЛУБОВІЧ

## ПАЭЗІЯ

*Памяці І. БРОДСКАГА*

**...свіціцца так, як акно за шторай,**
**Але адсунеш — і ўжо няма**
**Таемнай сутнасці, за каторай**
**Стаяла выстылая зіма...**

**Альбо як дзеўка, што з лазні ўпотай**
**Узнікне Евай — і ўся з ліста,**
**І томіць цнотай тваю істоту,**
**Табой жадана, але — сястра...**

**То сном на вейках трымціць дасвеццем**
**І — прападае,**
**а ты — паміж**
**Трызнення й явы,**
**на гэтым свеце**
**Сказаўшы слова,**
**на тым — маўчыш...**

НОРАВЫ

# ЗЛІТУЙСЯ, ВЕНЕРА!

ЯК ВЯДОМА, усім чалавечым грахам папярэднічаў першародны грэх Адама і Евы, якія доўга сузіралі адзін аднаго, пакуль, як гаворыцца ў Бібліі, "и открылись глаза у них обоих, и узнали они, что наги". І саграшылі, за што і былі Богам выгнаны з райскіх шатаў. Што было далей? А далей выгнаннем з раю Адама і Евы божанька не абмежаваўся, наслаўшы на іх нашчадкаў хваробу, якая пачынаецца з райскай асалоды, а заканчваецца пакутамі пекла.

Ці то ў піку спадару Саваофу, ці то па нейкай іншай прычыне, людзі тую хваробу назвалі імем вельмі сімпатычнай багіні кахання — Венеры. Хоць прыгажуня Венера, відаць, тут ні пры чым. Зрэшты, мне падаецца, што вынаходніцтва з гэтай назвай належыць моцнай палове чалавецтва, якая ва ўласных грахах заўсёды гатова была абвінаваціць дачок Евы. Старажытны грэчаскі драматург Эўрыпід у трагедыі "Іпаліт" сказа: "Зачем, о Зевс, на горе смертным, женщинам ты дал место под солнцем? Если род людской взрастить хотел ты, разве без этого коварного сословия обойтись не мог?" Вось і той жа Еве было інкрымінавана, што яна нібыта спакусіла Адама. Але ж сведкаў гэтага не было?

Дык хто ж быў першым венерычным хворым — мужчына ці жанчына? Навуцы гэта невядома. Вядома толькі, што ў грабніцах, якія датуюцца сярэдзінай першага тысячагоддзя да нашай эры, даследчыкі знаходзілі астанкі з яўнымі прыкметамі сіфілісу. Як піша ў сваёй кніжцы "Лики любви. Очерки истории половой морали" Аляксандр Сасноўскі, адным з першых ачагоў сіфілісу была, відаць, усходняя Індыя. Ва ўсякім разе, у Агор-Ведэ, своеасаблівым зборы рэцэптаў, утрымліваюцца звесткі аб існаванні сіфілісу за тры тысячы гадоў да нашай эры, прыводзяцца спосабы яго лячэння з дапамогай іртуці, кінавары, сулемы і каламелю. Дарэчы, урач Мінскага скурвендыспансера, кандыдат медыцынскіх навук, дацэнт Валянціна Пятроўна Стрыжонак, якой я пахваліўся сваёй "эрудыцыяй", усмешкай заўважыла, што згаданыя прэпараты шырока ўжываліся пры лячэнні сіфілісу аж да сярэдзіны гэтага стагоддзя, пакуль не быў вынайдзены пеніцылін. Менавіта пеніцылін, асабліва яго пралангіраваныя формы, сёння з'яўляецца самым радыкальным сродкам пры лячэнні "хваробы кахання".

Апошнім часам яна набыла на Беларусі характар сапраўднай эпідэміі. Менавіта так ахарактарызавалі сітуацыю вядучыя венеролагі краіны, з якімі мне нядаўна давялося гутарыць. Атрымалася своеасаблівае калектыўнае інтэрв'ю, у якім прынялі ўдзел: галоўны спецыяліст-дэрматавенеролаг Міністэрства аховы здароўя рэспублікі Валянцін Панкратаў, намеснік галоўнага ўрача Мінскага скурвендыспансера Юры Салук і згаданая ўжо Валянціна Стрыжонак.

**В. Панкратаў:** 1995 год быў годам рэкорду ў распаўсюджванні венерычных захворванняў, у першую чаргу сіфілісу і ганарэі. Іх было зафіксавана адпаведна 15280 і 17600 выпадкаў. Гэта больш як у два разы, чым у першым пасляваенным 1946 годзе, які ў гэтых адносінах лічыўся да апошняга часу самым цяжкім па вензахворваннях.

**— Лічыцца, што "венерыну хваробу" завезлі тады на Айчыну нашы доблесныя воіны з Еўропы, якую яны вызвалілі ад карычневай чумы.**

— Так, гэта мела месца. Але, паўтараю, тыя паказчыкі сёння пераўзыдзены больш як у два разы.

**— Але ж тады насельніцтва на Беларусі было менш...**

— Бяруцца ж не абсалютныя лічбы, а з разліку на сто тысяч насельнікаў. У 1946 годзе выпадкаў сіфілісу было зафіксавана на сто тысяч жыхароў каля 70, летась — 150. А калі браць 1988 год — самы спакойны ў гэтым плане, дык колькасць захворванняў на сіфіліс узрасла ў 105 разоў!

**— Хоць і кажуць, што "любви все возрасты покорны", тым не менш, відаць, не ўсім узростам аднолькава "вязе" з венерычнымі захворваннямі.**

— Так. Найбольш характэрная ў гэтых адносінах узроставая група ў 20—29 гадоў. Паказчык захворванняў на сіфіліс па ёй пераўзыходзіць сярэдні ў 3,5—4 разы. А наогул, апошнім часам сіфіліс, так бы мовіць, вельмі памаладзеў. Калі я не стаміў вас статыстыкай, прывяду яшчэ некалькі лічбаў. Да прыкладу, у 1988 годзе па ўзроставай групе 15—19 гадоў па Мінску сярод прадстаўнікоў мужчынскага полу не было выяўлена ніводнага выпадку захворвання на сіфіліс, сярод жа дзяўчат такіх выпадкаў было зарэгістравана толькі 4,8 на 100 тысяч насельнікаў. У 1992 годзе гэтыя паказчыкі склалі адпаведна 14 сярод мужчын і 49,7 сярод жанчын. Яшчэ праз два гады адпаведна — 142,3 і 470,9 выпадка на 100 тысяч насельнікаў.

**— Атрымліваецца, што прадстаўніц слабага полу, што трапілі ў абдымкі гэтай страшнай хваробы, утрая больш? Я меркаваў, што Бог тут дзеліць пароўну...**

— У больш сталых узроставых групах колькасць мужчын і жанчын, хворых на сіфіліс, сапраўды амаль аднолькавая. Што тычыць маладзенькіх спакусніц, дык іх "узнагародзілі" хваробай палавыя партнёры, старэйшыя за іх гадоў на 5-7. Застаецца толькі здагадвацца, колькі сярод гэтых аматараў дзявочай прыгажосці было сіфілітыкаў і колькі кожны з іх "облагодетельствовал" "дзяўчат".

**Юры Салук**: Я мяркую, што хворых на сіфіліс дзяўчат у "нежном" узросце больш таму, што яны раней за аднагодкаў-хлопцаў выспяваюць і фізічна, і фізіялагічна, у іх раней абуджаецца сексуальная актыўнасць. Не сакрэт, што пэўная частка іх (асабліва гэта характэрна для навучэнак прафтэхвучылішчаў) мае адначасова па некалькі палавых партнёраў, або, як кажуць у народзе, "ходзіць па руках". Наогул, сіфіліс — хвароба, кажучы па-руску, "поведенческая". А паводзіны чалавека натуральна вынікаюць з выхавання ў сям'і, закладзеных з дзяцінства маральных установак і г. д.

**— А мо гэта рэха так званай сексуальнай рэвалюцыі, што ўжо абышла ўвесь заходні свет? Да нас жа ўсё прыходзіць пазней...**

**Валянціна Стрыжонак**: Ні пра якую такую рэвалюцыю мае, асабліва маладыя пацыенткі, упэўнена, ніколі не чулі. Вінавата ва ўсім бездухоўнасць, характэрная для нашага часу, страта маральных арыенціраў, элементарная нявыхаванасць і ўсёдазволенасць. Пагаворыш з такой "гераіняй", і толькі дзіву даешся — з фізічнага боку ўсё пры ёй, як у дарослай жанчыны, а мазгоў — як ў той кошкі. Сёння пераважная большасць падлеткаў мае ўжо сексуальны вопыт. Не выключаючы і дзяўчат. Паводле праводзімых сексолагамі апытанняў, сярод школьніц старэйшых класаў толькі лічаныя з іх яшчэ не ведалі інтымнай блізкасці з мужчынам. Скажу больш, такія "белыя вароны" падвяргаюцца астракізму з боку больш вопытных аднакласніц. Ведаю выпадак, калі дзве старшакласніцы, даведаўшыся, што адна з іх сяброўак яшчэ дзяўчына, заманілі яе на кватэру, дзе дапамаглі некалькім хлопцам згвалціць "недотрогу".

АЎТАРСКАЯ РЭМАРКА.

І ўсё-такі ў жыцці не так усё проста, не так адназначна, не так лёгка вызначыць прычынныя сувязі заняпаду грамадскай маралі і, у выніку гэтага, росту венерычных захворванняў, як гэта памкнуліся зрабіць мае паважаныя суразмоўнікі. Хоць, трэба прызнаць, вялікая доля ісціны ў іх развагах была.

Не скідваючы з рахунку сацыяльныя прычыны асацыяльных (даруйце за каламбур) паводзін пэўнай часткі той жа моладзі, адмоўнага ўплыву на яе не лепшага гатунку тэле- і друкаванай прадукцыі з іх смакаваннем сексу і насілля, я ўсё ж не без іроніі стаўлюся да звычных сёння настальгічных успамінаў пра мінулы час, калі, маўляў, людзі нават саромеліся гаварыць уголас пра тое, што зараз паказваюць на тым жа тэлеэкране, калі не было такой распусты, такой разбэшчанасці, такога цынізму ў адносінах паміж мужчынамі і жанчынамі.

Што тут скажаш? Было, усё было. Увесь час, колькі існуе чалавецтва. Згадаем, што ля вытокаў эратычнай і парнаграфічнай літаратуры і мастацтва ў іх сённяшнім разуменні стаялі старажытныя грэкі з іх, па тым часе, самай высокай у Еўропе культурай. А калі зазірнуць яшчэ глыбей, дык убачым, што гісторыя першых чалавечых цывілізацый, якая ахоплівае некалькі тысячагоддзяў — гэта гісторыя фанатычнага пакланення ідалам "сладострастия", якое суправаджалася ахвярапрынашэннямі і масавымі оргіямі. Абавязковым атрыбутам большасці культаў з'яўлялася свяшчэнная, або храмавая прастытуцыя.

Гэта была варварская эпоха? Але і ў хрысціянскія часы, нягледзячы на рэлігійную пропаведзь аскетызму, адмаўлення зямных асалод, жыццё ішло сваёй чаргой, хіба толькі што палавая мараль набыла больш вытанчаныя, але, разам з тым, і больш крывадушныя форму і змест. Грашы і кайся! Ды, зрэшты, рэаліі тагачасных нораваў цудоўна перадае знакаміты "Дэкамерон". Што тычыць паказу аголенага цела, які выклікае асаблівую нянавісць сучасных святош, дык жа яго апявалі самыя вялікія мастакі ўсіх часоў і народаў — ад Леанарда і Цінтарэта да Гоі, Рубенса, Рэмбранта і Радэна.

Калі гаварыць пра цяперашні час, дык, закранаючы такую тонкую матэрыю, як палавая мараль, нельга забываць, што наш век — век жаночай эмансіпацыі. Добра гэта, ці блага — асобная гаворка. Але не бачыць гэтага можа толькі невідушчы. Тое, што я зараз скажу, вядома, жарт, але ў кожным жарце ёсць доля ісціны. Дык вось, сёння самы што ні ёсць любімы муж не прымусіць жонку на час сваёй адсутнасці надзець "пояс вернасці", накшталт таго прыстасавання, якое павінны былі насіць "цудоўныя дамы", калі іх каханыя — высакародныя рыцары — адпраўляліся ў крыжовы паход, які цягнуўся, бывала, не адзін год. Не прымусіць, нават калі гэта будзе не цяжкая, з жалеза каваная "бялізна", як некалі, а яе лёгкая электронная мадыфікацыя. Біблейская ісціна "Забаронены плод салодкі" — верная ва ўсе часы.

Маё судакрананне са згаданымі праблемамі прымусіла прыйсці і да такой высновы — нельга "стрыгчы" ўсіх "грэшнікаў", а асабліва "грэшніц" пад адзін грэбень. Надараюцца сярод іх асобы са своеасаблівым псіхічным і фізіялагічным складам, павышанымі тэмпераментам і сексуальнай актыўнасцю, магчыма, нават абумоўленымі геннай спадчыннасцю. Незразумелыя, нелагічныя на першы погляд учынкі, якія часам дазваляюць сабе жанчыны, калечачы пры гэтым сваё жыццё, — тайна з тайнаў жаноцкай існасці, разгадаць якую было па плячы хіба толькі Фрэйду.

Пры садзеянні Валянціны Пятроўны ў яе кабінеце на 5-м "венерычным" паверсе ў мяне адбудзецца сустрэча з адной з яе пацыентак, якой я буду прадстаўлены, як псіхолаг (на "інтымныя" размовы з прэсай гэтыя хворыя, як правіла, не ідуць). Прызнацца, быў упэўнены, што пабачу зараз адну з намаляваных доктарам "жрыц", а ўвайшла ў пакой тоненькае, кволенькае дзяўчо, з празрыстым тварыкам. Сціпла сеўшы на краёчак крэсла, зірнуўшы на мяне чыстымі сумнымі вачыма, пачала перабіраць пальцамі насоўку.

З папярэдняй размовы з Валянцінай Пятроўнай я ўжо ведаў, што "дзяўчо" — васемнаццацігадовая студэнтка-першакурсніца аднаго з тэхнічных іс тытутаў сталіцы. Дыягназ — сіфіліс, з-за якога ёй нядаўна перапынілі трохмесячную цяжарнасць, што звычайна робіцца ў падобных выпадках, бо амаль заўсёды хвароба перадаецца дзіцяці. Доктару прызналася, што пачала палавое жыццё з пятнаццаці гадоў. Вось такі "паслужны" спіс...

Спакваля, здалёк, вельмі асцярожна пачаў распытваць, адкуль родам, хто бацькі, як вучылася ў школе, з кім сябравала, ці лёгка ёй даецца інстытуцкае жыццё. Пачала расказваць ціхім, ледзь чутным голасам, але без нейкага ўнутранага прымусу, досыць ахвотна. Распавяла, што жыла ў адным з раёнаў Віцебскай вобласці, там жа скончыла сярэднюю школу з матэматычным ухілам. Клас быў нецікавы — у асноўным хлопцы, якія нават у старэйшых класах паводзілі сябе, як дзеці — шпурляліся анучкамі ад дошкі, пускалі папяровых галубоў і да т. п. Сябравала з дзвюма ўжо дарослымі — за дваццаць — дзяўчатамі. Што цягнула да іх? Цікавыя размовы пра рэлігію, з імі хадзіла ў царкву. І яшчэ яны пазнаёмілі яе з кнігамі і карцінамі Рэрыха, якія яна вельмі ўпадабала. У інстытуце, куды паступіла з першага заходу, абрала сабе будучую спецыяльнасць — інжынер па медыцынскім абсталяванні. Якое яна бачыць выйсце з сітуацыі, у якой апынулася? Пацепаўшы плячыма, адказала, што, відаць, прыйдзецца браць акадэмічны водпуск. Сказала і залілася слязьмі. Усхліпваючы, ледзь чутна вымавіла, што цяжка перажывае страту дзіцяці. "Разумееце, у палаце да ўсіх парадзіх прыносілі дзяцей на кармленне, толькі мне..." Памаўчала, а потым амаль спакойна: "Я ж разумею, у мяне сіфіліс і ён мог перадацца дзіцяці!" Так упершыню яна вымавіла назву сваёй страшнай хваробы, вымавіла досыць будзённым тонам, нібыта гаворка ішла аб нейкай малазначнай больцы. Я згадаю гэтае месца ў яе аповядзе потым, калі пачую ад аднаго са сваіх суразмоўцаў-урачоў, што многія хворыя на сіфіліс абсалютна не усведамляюць няшчасця, якое на іх абрынулася.

Асцярожна спытаў: якія ў яе цяпер адносіны з чалавекам, ад якога яна зацяжарыла? Адказала: даведаўшыся, што яна заразіла яго сіфілісам, адразу ад яе адвярнуўся. Пачуўшы такое, я нават разгубіўся... Заўважыўшы гэта, мая суразмоўніца спакойна патлумачыла, што да яго ў яе быў іншы знаёмы, ад якога яна і заразілася... "Ён гэта зрабіў наўмысна?" — спытаў я. "Ды не, ён сам не ведаў, што хворы", — пачуў у адказ. Памаўчала, адвяла вочы, потым зноў загаварыла пра ненароджанае дзіця, і было падобна, што толькі гэта яе па-сапраўднаму гняце.

Дарэчы, у тым жа калідоры мяне правялі па палатах, дзе ляжаць жанчыны-сіфілічкі з немаўлятамі, якім яны перадалі сваю хваробу. "Адна з маіх пацыентак, — расказвала Валянціна Пятроўна, — даведалася, што яна хворая на сіфіліс, калі рабіць аборт было ўжо позна. Узнагародзіў хваробай уласны муж. Дзіця нарадзілася такое хворае, такое кволае, што думалі — не выжыве. Але пасля інтэнсіўнага лячэння памацнела. Сіфіліс — хвароба, калі яе не запусціць, — вылечная".

Дык як ратавацца ад гэтай навалы? Закранаючы такую тонкую матэрыю, як палавая мараль, хачу сцвердзіць адну, на маю думку, бясспрэчную ісціну: ніякімі законамі, ніякімі ўказамі (у часы інквізіцыі за пралюбадзейства адпраўлялі на вогнішча) не пераробіш чалавечую прыроду, яго, чалавека, неадольную прагу зямных насалод, чым бы гэта ні тлумачылася — інстынктам працягу роду, тэмпераментам, урэшце — палавой разбэшчанасцю. Можна і трэба толькі ўмець надаваць усяму гэтаму прыстойнае, не жывёльнае аблічча, абмежаваць цывілізаванымі рамкамі.

Калі ж мець на ўвазе прадмет нашай сённяшняй гаворкі, дык весці яе, на маю думку, можна толькі ў рэчышчы павышэння сексуальнай культуры (па аналогіі заўважым, што ўсе нашы беды ад алкагалізму і п'янства не ад таго, што ў нас няма сухога закона, які, дарэчы, ніколі не быў выйсцем са становішча, а ад таго, што нам бракуе культуры піцця).

**В. Панкратаў:** Адзін з істотных элементаў сексуальнай культуры — ужыванне засцерагальных сродкаў, у першую чаргу прэзерватываў, якія, пры іх добрай якасці, даюць амаль стопрацэнтную гарантыю прадухілення венерычнага захворвання. Ды, на вялікі жаль, сродак гэты, з-за элементарнай непісьменнасці, невуцтва ў пытаннях сексу не знаходзіць у нас шырокага ўжытку. У адрозненне, заўважу, ад заходніх краін. У нас лічаць за лепшае спадзявацца на славутае "авось". Авось — Бог злітасцівіцца, авось — пранясе. Не, не праносіць, пра што сведчыць эпідэмія венерычных захворванняў, якая на нас абрынулася. Пра што іншае, як не пра незвычайную безадказнасць, нейкую жывёльную тупасць сведчаць выпадкі шматразовага заражэння сіфілісам адной і той жа асобы?!

**— Не рэцыдывы, новыя заражэнні?**

— Менавіта новыя. Існуе надзейная методыка, якая дазваляе гэта дакладна вызначыць. Скажу больш, ёсць "экземпляры", якія, знайшоўшы ў сабе прыкметы венерычнага захворвання, лічаць за лепшае не паказвацца ўрачу. Дзікунства, дый годзе...

*(Працяг на стар. 12)*

апавяданнях "Павел прыехаў", "Перад навальніцай" расказвалася пра будні пасляваеннай вёскі, пра звычайную, стрыманую, але ў той жа час агромністую радасць тых, хто вярнуўся з вайны і прылучыўся да мірнай працы. Апавяданні падкуплялі непасрэднасцю, шчырасцю, праўдзівасцю адлюстраванага жыцця. За невялікім выключэннем яны былі пабудаваны не на вострых сутыкненнях, а ўяўлялі сабой кавалкі па-мастацку асэнсаванага, паўсядзённага жыцця. Мележ такім чынам заявіў сябе пісьменнікам, здольным адчуваць пульс народнага жыцця, пісаць аб простых, звычайных людзях з нізоў народнага жыцця-быцця.

У першым рамане "Мінскі напрамак", над якім пісьменнік многа і ўпарта працаваў і да мастацкага ўдасканалення якога вяртаўся, выказаны погляд на Айчынную вайну не толькі як на справу найвялікшай мужнасці, подзвігу народа, а і як на цяжкую, паўсядзённую працу, дзе праявіліся такія якасці нашых воінаў, як цягавітасць, вытрымка, уменне пераносіць, пераадольваць пакутлівыя нягоды і выпрабаванні.

Іван Мележ далёка не адразу атрымаў шырокае і ўсеагульнае літаратурнае прызнанне. Яно прыйшло пасля рамана "Людзі на балоце". Крытыкі, даследчыкі як бы нанова зірнулі на пісьменніка, убачылі ў ягоных творах тое, чаго раней нібы не заўважалі — глыбокі псіхалагізм, дакладнасць і адначасова паэтычнасць малюнка, тонкую назіральнасць.

Пра раман "Людзі на балоце" загаварылі адразу, як толькі ён пачаў друкавацца ў часопісе. Падпісчыкі чакалі чарговага нумара, каб дазнацца, што яшчэ здарыцца ў закінутай сярод палескіх балот вёсцы Курані, як павернецца лёс Васіля Дзятла, Ганны Чарнушкі, іншых герояў.

Неўзабаве адбылося абмеркаванне рамана ў Саюзе пісьменнікаў. Выступалі празаікі, крытыкі, паэты. Некаторыя адзначалі: Мележ "раскрыўся па-новаму", выявіліся новыя, "невядомыя раней рысы ягонага таленту". Гаварылі нават, што Мележа проста не пазнаць. Нібы з неба ўпаў выдатны пісьменнік.


Івана Мележа віншуюць землякі, 1970 г.

Героі рамана ў хуткім часе перабраліся на сцэну тэатра, па рамане ставілі тэлефільмы, радыёспектаклі, а Мележу прыйшлося даваць бясконцую колькасць інтэрв'ю.

Напісаў Мележ раманы "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы" ў добрай манеры сацыяльна-бытавой беларускай прозы, і яны загучалі вельмі па-сучаснаму. Калі чытаеш, перачытваеш мележаўскія раманы, на памяць прыходзіць славутая коласаўская "Новая зямля". Пасля Коласа, бадай, не было ў беларускай літаратуры другой кнігі, дзе б, як у мележаўскай хроніцы, з такім грунтоўным веданнем сялянскага, народнага жыцця паўстаў быт, *паэзія, сацыяльная вастрыня канфліктаў,* звязаных з калектывізацыяй вёскі.

Прысвечаныя жыццю палескай вёскі 20-х і 30-х гадоў, мележаўскія раманы ахвотна, з захапленнем чытаюцца сённяшнім чытачом. Бо яны закранаюць думкі, пачуцці сучаснікаў, па галоўных пытаннях жыцця, перагукваюцца з нашымі днямі.

Значнасць мастацкага твора вызначаецца перш за ўсё адкрыццём тыпу, характару, бо толькі аб'ёмны, пададзены ў адзінстве асабістага і грамадскага характар забяспечвае твору мастацкае даўгалецце.

У раманах Мележа на ўвесь сацыяльны, чалавечы рост паўсталі Васіль Дзяцел, Ганна Чарнушка, Яўхім Глушак, ягоны бацька Халімон Глушак, вясковы актывіст Міканор, старшыня валвыканкома Апейка, сакратар райкома Башлыкоў і іншыя героі. А колькі там вобразаў так званага другога і трэцяга планаў, якія, тым не меней, глыбока запамінаюцца, бо і яны абмаляваны глыбока і роля іх далёка не дзяжурная.

Іван Мележ напісаў творы, дзе ўсё ўбачана вачамі, розумам, пачуццямі селяніна-палешука, пісьменнік не спускаўся да свайго героя з іншага асяроддзя, а стаяў упоравень з ім, гаварыў ад яго імя, сцвярджаў яго этычны, эстэтычны, духоўны свет. Гэта абумовіла стылістыку раманаў, нават яго паляшуцкую мову з усімі гэтымі "кеб", "було".

Мележ пакутліва пісаў свае раманы. За выняткам часу для дапрацоўкі "Мінскага напрамку" ён аддаў ім дваццаць гадоў жыцця, пачаўшы працу пасля XX з'езда КПСС. Раманы гэтыя народжаны атмасферай шасцідзесятых гадоў з яе актыўнымі пошукамі адказаў на вострыя набалелыя сацыяльныя і маральна-этычныя праблемы.

Якуб Колас у "Новай зямлі" паказаў, што яе герой Міхал не знайшоў шчасця ў змаганні за ўласны кавалак зямлі, не знайшоў шчасця і мележаўскі герой Васіль Дзяцел. У адным з чарнавых накідаў будучых кніг рамана ёсць такія словы: "Ні зямлі, ні Ганны".

Васіль Дзяцел на старонках раманаў так і застаўся аднаасобнікам. А вось ягоная каханая Ганна Чарнушка зрабіла выбар. Яна ўцякла з кулацкай сям'і Глушакоў, уладкавалася прыбіральшчыцай у школе, і мы выразна адчуваем: у Курані, каб цягнуць ярмо цяжкай жаночай долі, яна не вернецца.

Ды і Васіля Дзятла пісьменнік, мяркуючы па ўсім, збіраўся прылучаць да новага жыцця. Ёсць урывак, дзе Васіль, мабілізаваны пасля выгнання акупантаў у армію, ляжыць у акопе з кулямётам і марыць аб заканчэнні вайны, аб вяртанні ў родныя Курані, да мірнай працы.

Не ведаю, ці бачыў Мележ у суседняй, стэпавай частцы роднага Хойніцкага раёна вёскі-аграгарадкі, такія, напрыклад, як Бабчын. Відаць, пры ягоным жыцці іх яшчэ не было. Каменныя белыя домікі-катэджы, заасфальтаваныя вуліцы, правулкі, водаправод, тэлевізары ў кожным доме, сады і ўраджаі па сорак цэнтнераў збожжа з гектара. Але адбылася чарнобыльская катастрофа, і аграгарадкі апусцелі.

Я ўжо гаварыў: дваццаць гадоў няма сярод нас Івана Мележа. Ён рана адчуў сваю хваробу. І як намаляваны ім палескі сейбіт, жахнуўся, што не дасее палетак, не паспее закончыць, здзейсніць задуманае. Сцяўшы зубы, пераадольваючы цяжкую хваробу, боль, слабасць, ён, аднак, ішоў па сваім полі і сеяў. І нібы ўпаў сярод поля з сяўнёй, у якой было яшчэ многа не кінутых у зямлю зярнят. Трэці раман *"Завеі, снежань" застаўся недапісаны.* Не гаворачы пра чацвёрты, магчыма, пяты, што былі задуманы і ад якіх засталіся толькі паасобныя малюнкі і накіды.

Як сказаў Пятрусь Броўка: колькі ён мог яшчэ напісаць, каб болей пажыў, наш Іван Мележ!

У ваенным дзённіку, які пазней атрымаў назву "Першая кніга", 26 лістапада 1941 года салдат Мележ запісаў: "Пішу. У маленькай магіле-акопе. Цямната. Свет праціскаецца праз *шчыліну. Цёпла і цесна.* Прыціснуўшыся нагамі да ног кулямётчыка Фядотава. Ён укрыўся матрацам і дрэмле, а я пішу, паклаўшы кніжку на калені. Ранішні агляд раблю. У люстэрку зарослы шчацінай, чорны ад пылу і сажы твар. Няўжо гэта я? Шапка і шынель у чырвонай гліне. Захлынаючыся, кашляю. Пасля вайны, калі і ўцалею, я, відаць, буду калекай, хворым. Але аб гэтым я нікому не кажу.

Фядотаў узняў галаву. "Ты ўсё дзённік? Кінь, гэтыя дні і так не забудуцца".

Мы ведаем, як жыў Іван Мележ пасля вайны. Змагаючыся з хваробай, якая, здаецца, не адпускала яго ні адзін год, ён пісаў, каб тое, што ён ведае, ведаў лепей, чым другія, не забывалася. І Мележава жыццё, як тое далёкае ляжанне ў акопе, можна назваць толькі адным словам — подзвіг.


*З Максімам Танкам, 1975 г.*


*Першая сустрэча з Васілём Быкавым, 1968 г.*

Ён думаў толькі пра літаратуру. Гаварыў зноў жа толькі пра літаратуру. Другіх тэм гаворкі з сябрамі-таварышамі ў Мележа не было. А колькі было ў пісьменніка бяссонных начэй, душэўных пакут, згрызот, пра гэта мы ніколі не даведаемся.

Беларуская проза вызначаецца сёння многімі таленавітымі імёнамі. Іван Шамякін, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў і Барыс Сачанка, — апошнія двое дачасна адышлі ад нас, — памнажаюць і памножылі мастацкія здабыткі беларускай літаратуры. І ўсё ж на фоне гэтай, скажам без перабольшання, вельмі добрай літаратуры Іван Мележ найвышэй узняў яе мастацкі дах, яе мастацкі ўзровень.

За гэта яму наша хвала і ўдзячнасць.

**Іван НАВУМЕНКА**
*Фота Ул. КРУКА.*

---

Не помню, што я сказаў такое на першай нашай сустрэчы трыццаць гадоў назад, калі я, аспірант, гаварыў з радасцю і захапленнем пра яго "Людзей на балоце" на нейкай філфакаўскай навуковай канферэнцыі. Як жа прыязна, весела і, калі хочаце, шчасліва смяецца ён разам з М. Ларчанкам і Д. Бугаёвым! Якая цеплыня чалавечнасці выпраменьваецца з гэтага здымка ў газеце "Беларускі універсітэт" (1965 год)!

Падышоў ён тады, ласкава абняў і шчыра падзякаваў...

А як жа памагалі мне пераадольваць жах маёй восьмай аперацыі на гэты раз ажно ў Маскве яго лісты 1967 года. Напярэдадні Новага 1968 года я, зрэшты, атрымаў недзе каля 40 лістоў і паштовак, а сярод іх — ад яго і Максіма Танка. Некаторыя ж, цяпер надта знакамітыя, проста не адказвалі на мае лісты...

Яму ж самому было нялёгка: "Я ніколі нікому не казаў (бо ніхто асабліва і не хацеў слухаць, ці не ўмеў разумець) пра тое, колькі перажыў я, падступіўшы да свайго трыццацігоддзя, калі ў мяне раптам адкрыўся туберкулёз, прытым у цяжкай і небяспечнай форме. А з ім адна за адной, год за годам яшчэ некалькі *іншых, ні трохі не лепшых хвароб...* і цяпер, калі туберкулёз прыціх, я вымушан пакутаваць з гэтымі іншымі і ведаць, што адну з іх я ніколі не вылечу, і што яна прывядзе мяне да апошняй мяжы..." (з ліста да мяне ў Маскву ў 1967 годзе, гл. Збор твораў, 1985, с. 169).

А хіба лягчэй яму было тады, калі раманы "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы" былі вылучаны ў 1972 годзе на атрыманне Ленінскай прэміі?!

"На жаль, мяшчане ад літаратуры вельмі актыўныя, ідуць у наступ адкрыта (ва ўсякім разе не саромеюцца вылазіць у бойку)! А многім добрым літаратарам нібы і клопату няма да ўсяго.

Ну, і мяне, канечне, уразіла агульнае маўчанне, што да майго лёсу. І газет, і людзей, многіх маіх сяброў. Хоць бы хто варухнуўся!..

Толькі мы, мабыць, можам гэтак.

Я вельмі ўдзячны "Москве", "Правде", "Литгазете", "Известиям". Многа званілі з Масквы. З Мінска — ніводная душа. Вось як!

Не, няпраўда, званіў Матукоўскі. І вельмі ўдзячны я гэтаму слаўнаму чалавеку..."

Гэта — з ліста да мяне ад 21.III.1972 пасля таго, як у тагачасным "ЛіМе" надрукавалі абкарнаны на дзве трэціх мой артыкульчык...

Пра Мележа, пісьменніка і чалавека, можна пісаць бясконца.

Не такія ўжо абсалютна "благолепные" былі і нашы ўзаемаадносіны. "Дай жа я пагляджу бліжэй на цябе, заядлага", —сказаў ён мне, калі я па справах упершыню зайшоў да яго ў хату. І так доўга-доўга пераконваў мяне, што я памыляюся, сцвярджаючы не раз публічна, што "Подых навальніцы" сёе-тое страчвае ў параўнанні з "Людзьмі на балоце", што я ледзь вытрываў. І ажно сёння шкадую, што адмовіўся ад яго запрашэння зайсці на кухню — там жа нас чакаў па прызнанні больш пакладзістага аднаго майго сябра сапраўдны каньяк. Не кажу ўжо пра тое, як ён змагаўся за тое, каб мяне яшчэ без кніжкі прынялі ў Саюз пісьменнікаў...

Хіба я мог падумаць тады, што перажыву яго аж на дваццаць гадоў?

Дваццаць гадоў яго няма з намі. А яму ж было б сёння толькі 75 гадоў. А Уладзіміру Караткевічу — усяго 65! Здаецца, каб былі яны ўсе з намі — Мележ, Куляшоў, Броўка, Караткевіч, Панчанка, Танк — мо ім разам з Іванам Шамякіным і некаторымі іншымі жывымі ўдалося б абараніць усіх нас, нашу літаратуру і ўсю нашу культуру...

Як жа мала было суджана жыць лепшым сынам нашага народа, асабліва празаікам. Іван Мележ і Аркадзь Чарнышэвіч пражылі ўсяго па 55 гадоў, Уладзімір Караткевіч — 54, Максім Гарэцкі — 44, а Лукаш Калюга — усяго 28...

Але ж як многа сказалі яны высокай — і трагічнай і адначасна велічнай — праўды пра свой народ.

І як даказаць людзям — воляю нашага лёсу ці што? — далёкім ад нашага самага найвялікшага — духоўнага! — набытку, што калі і далі мы што сабе, суседнім народам і ўсяму цывілізаванаму свету, дык гэта Літаратуру, якой многія і многія народы могуць толькі проста пазайздросціць.

Праўда, па колькасці Народных мы хутка будзем "впереди планеты всей".

Але Іван Паўлавіч Мележ — сапраўдны народны пісьменнік.

І народ — менавіта народ, а не "рафінiраваныя" нашы "эўрапейцы", якія думаюць па-руску, перакладаюць, гаворачы і пішучы, "слова ў слова", устаўляючы для "ажыўляжу" якое-небудзь слоўца з "Талковага слоўніка" Б. Тарашкевіча, а хоць бы тая мая 88-гадовая цешча, якая нарадзілася за нейкіх пяцьсот метраў ад Зімняга у Санкт-Пецярбурзе, увесь век раней жыла ў рускамоўным асяроддзі, але гады два назад ніяк не магла адарвацца і прачытала ўсю "Палескую хроніку", — будзе заўжды яго любіць і помніць, бо ў яго "людзях на балоце" ён бачыць самога сябе сапраўднага...

Дазволю сабе ў заключэнне працытаваць яшчэ аднаго чалавека, які таксама быў сумленнем нашае культуры, нашага духоўнага менталітэту, на гэты раз мне вельмі блізкага, такога ж дарагога і незабыўнага, як і Іван Паўлавіч Мележ — Веру Сямёнаўну Палтаран: "Многае ў чалавеку становіцца зразумела людзям толькі пасля яго смерці. Гэта вельмі горка, але так ужо заведзены механізм нашага жыцця.

Пераступіўшы жыццёвы парог, Іван Мележ вярнуўся да нас у большай славе і велічы, чым ад нас адыходзіў. Вярнуўся, каб вечна служыць не толькі бацькоўскай зямлі, якая яго нарадзіла, але і ўсяму чалавецтву, несці людзям праўду, неабходную як хлеб і высокае хараство мастацтва, якое ачышчае і ўзвышае чалавечую душу".

**Генадзь ШУПЕНЬКА**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## АНЧЫЦ, ВЫДАВЕЦ БАГУШЭВІЧА

Цяжка, відаць, знайсці чалавека, які б не ведаў, што Францішак Багушэвіч з'яўляецца аўтарам кніжкі "Дудка беларуская". Але ўсё ж нямногія, пэўна, прыгадаюць, хто парупіўся, каб яна своечасова ўбачыла свет. Прытым не адзін раз, а двойчы — у 1891 і 1896 гадах.

А чалавек гэты — польскі гісторык і грамадскі дзеяч, выдавец Вацлаў Зыгмунд Анчыц. Нарадзіўся ён 130 гадоў назад — 4 лютага 1866 года. У 1885 годзе стаў уладальнікам друкарска-выдавецкай фірмы, заснавальнікам якой быў яго бацька, ураджэнец Вільні, пісьменнік У. Анчыц. У 1891 годзе ў Кракаве і выйшла "Дудка беларуская", а ў 1892 годзе яшчэ адна Багушэвічава кніжка — "Трялялёначка".

## ВЫЙШЛА ЎСЯГО СЕМ НУМАРОЎ

часопіса заходнебеларускай моладзі "Маладое жыццё". Першы нумар яго з'явіўся ў лютым 1921 года, апошні датуецца студзенем 1929-га. Нават па гэтым відаць, што выданне выходзіла неперыядычна. Але "Маладое жыццё" вельмі чакалі тыя юнакі і дзяўчаты, якія ў сваім жыцці кіраваліся нацыянальна-вызваленчымі ідэаламі. На старонках часопіса яны знаходзілі матэрыялы, блізкія ім па духу. У прыватнасці, змяшчаліся апавяданні, замалёўкі Я. Драздовіча, М. Ільяшэвіча, вершы У. Жылкі, У. Дубоўкі, І. Дварчаніна і іншых аўтараў. "Маладое жыццё" не абмінала ўвагай і літаратурна-крытычнай дзейнасці. Былі апублікаваны артыкулы, нарысы, прысвечаныя В. Дуніну-Марцінкевічу, Багушэвічу, Я. Коласу і іншым. Рэгулярна паведамлялася пра найбольш важныя падзеі культурнага жыцця.

## КОНКУРС "БЕЛАРУСКАЯ ЛАСТАЎКА"

Рэдакцыя часопіса "Роднае слова" сумесна з беларуска-германскай фірмай "Diftrich" у 1996 годзе праводзіць філалагічны конкурс "Беларуская ластаўка", што будзе праходзіць у два туры, кожны з якіх складаецца з трох этапаў. Пытанні конкурсу тычацца самых розных аспектаў беларускага моваведства і літаратуразнаўства і на працягу года будуць публікавацца ў "РС".

У конкурсе могуць прыняць удзел настаўнікі сярэдніх школ і выкладчыкі ВНУ, а таксама студэнты і вучні. Для кожнай катэгорыі ўдзельнікаў прадугледжаны свае крытэрыі ацэнкі адказаў. Тэрмін адпраўлення адказаў — не пазней 10 числа наступнага месяца пасля атрымання нумара часопіса (напрыклад, на пытанні, змешчаныя ў лютаўскім нумары, трэба адказаць да 10 сакавіка).

У якасці прызоў пераможцам будуць прэзентаваны Зборы твораў пісьменнікаў, плэеры, аўдыё- і відэакасеты і інш. А галоўны прыз — турысцкая паездка ў Германію (Гамбург і яго ваколіцы) — пераможцам 2 тураў, удзельнікам 6 этапаў. Будуць адзначаны прызамі пераможцы кожнага з тураў, а таксама этапаў.

## "ГАВАРКІЯ ІСТОТЫ" — ГЭТА ЎСЕ МЫ

Псіхалінгвістыка — адносна новая галіна ведаў. Менавіта яе прадстаўляе вядомая амерыканская даследчыца Джын Эйчысан у сваёй кнізе "Гаваркія істоты".

Кніга, заснаваная на працах вядучых заходніх вучоных, вытрымала некалькі выданняў. У перакладзе на беларускую мову яна выдадзена суполкай "Кліч" у серыі "Адкрытае грамадства" Беларускага Фонду Сораса (1995).

"Можна даволі лёгка паказаць, што людзі ад прыроды схільныя да авалодання мовай, — піша даследчыца. — Цяжкасць заключаецца ў тым, каб вызначыць дакладна, што з'яўляецца прыроджаным. Людзі разважаюць аб гэтым ужо некалькі стагоддзяў". На багатым тэарэтычным і факталагічным матэрыяле аўтар раскрывае феномен чалавечай мовы. Пры гэтым закранаюцца пытанні камунікацыі жывёл, развіцця мовы ў дзяцей, самога працэсу маўлення і моўных ведаў увогуле.

Як лічыць аўтар, гэта кніга "не прадугледжвае ніякіх лінгвістычных ведаў у чытача", а значыць, адрасавана шырокаму чытацкаму колу — студэнтам ВНУ і каледжаў, якім неабходны ўводзіны ў прадмет, а таксама настаўнікам, псіхолагам — усім, хто цікавіцца з'явай мовы і хацеў бы паглыбіць свае веды.

Н. К.

Паэзія

Вольга ІПАТАВА



# І ЎВАСКРЭСНЕ НАРОД...

## ТРОЙЦА

Сядзяць анёлы нашае зямлі
Над горкай чашай: заслабыя крылы.
Тут людзі зноў чужое прынялі
І адракліся ад крыжа Ярылы.

Сын не прымае продкаву раллю,
І дух святы — над камяністай глебай,
Дзе — убітыя па горла у зямлю,
Вачэй не падымаючы да неба...

## ВЕРБНІЦА

За ноч зусім зялёным стаў арэшнік.
Ледзь цепліць печка.
За акном смуга.
У Вербную Нядзелю толькі грэшнік
Адчайна дакранецца да плуга.

Вунь у царкве, забранай ад культуры,
Гармідар, і не ўціснуцца зярну.
Унізе ладзяць нейчыя хаўтуры,
Уверсе славяць Бога і Вясну.

Яшчэ царква ад скокаў не астыла,
І новенькі бліштэць іканастас,
З-пад скуднае пабелкі "Веды—сіла"
Шчэ праступае, як мінулы час.

Ды, кінуўшы ўчарашнія кумірні,
Зноў ваяўніча моліцца народ
(Пракляўшы Леніна і атам мірны)
За мечаны Чарнобылем свой род,

За спрамленыя у балота рэчкі,
За нейкі грэх, што з намі па вяках...
І вербныя галінкі, быццам свечкі,
Як сутаргай заціснуты ў руках.

А навакол, як толькі згледзець з ганку,
Курыцца парай цёплая зямля,
Кадрыль гармонік п'яна рэжа з ранку,
І недзе горка плача немаўля...

●

*Янку ЗАПРУДНІКУ,*
*майму земляку*

Запыленым люстэркам слова "Мір".
Кустоўе чэзлае паміж двух храмаў.
З начыннем, вартым шкадавання, крамы
Як процівагі, па баках...
І жвір.
Не бачыла яшчэ раскопкаў, дзе б
Два метры ўглыб — і не знайсці манеты,
Далонню бедняка калісь сагрэтай,
Як спадзяванне на жытло і хлеб,

Дзе пацеркай — дзявочаю красой
Не адгукнулася б на кліч стагоддзе...
Ды тут, пад гэтым жвірам...
Карагодзяць
Такія цені тут! І вечны сон
Ім не закон...
Цыганаў каралі
І тыя, што і каралёў цкавалі.
І тыя, што на вуліцы Завальнай
За валам — дзе кавалі кавалі

Гісторыю... Не тую, дзе — імя.
А простую — кальчугу з безліч колцаў.
Сялянскія, рамесніцкія хлопцы...
А Час усіх заворваў, як лямях.

Вось мы — ў стагоддзі гэтым прараслі.
І ў гэтым — хочацца ці не — народзе.
Наш дух зямны Усявышні
ці Забродздзем,
Ці замкавым абрысам акрыліў.

На вуліцы Завальнай — цішыня.
Маўчыць касцёл святога Мікалая.
Тут шлях наш пачынаўся. І палае
Любоў да Бацькаўшчыны ў нас адна.

Паэты мы, і Слову аддамо
Агонь, пранесены праз цяняверку.
Краёчак сэрца б з пыльнага люстэрка,
І ўспыхне Вечнасці святло само!

## З ЦЫКЛА "ЭМІГРАНТЫ"

У Лявона Мурога ля рэчачкі
светлай мурог.
Дамавітыя пчолы бяруць
з белых кветак даніну.
Ён паказвае дом — віў гняздо,
колькі мог,
Пасадзіў нават клёны —
у спадчыну сыну.

На катэдж залацістыя промні ляглі.
Тут да ладу усё,
асалоды — дасхочу.
Ён пытае: "А як там, на нашай зямлі?"
І бяседу вядзе, і частуе да ночы.

Нам спяшацца назад, дзе жыццё,
як шчаня,
Што адчайна на рэйках вішчыць
з-пад трамвая...
Ён жа ўсё паўтарае: "Радзіма, радня..."
І вільготныя вочы ад жонкі хавае...

## ВІНДСЕРФІНГ

Мне не ўтрымацца на дошчачцы кволай.
Лепш падымуся на ўзгорак — здаля
Буду глядзець, як, вандроўнік вясёлы,
Лёгка ляціш па планеце Зямля.

Як парушынка ў возера воку
Парус твой белы — цень аж на дне.
Вецер нясе твой віндсерфінг далёка,
Быццам забраць цябе хоча ў мяне.

О, не знікай! Закруціся сувоем
Часу — і ў гэтай хвіліне жывi!
Мы растварыліся ў леце абое,
Бегам шалёнай, гарачай крыві.

У лёгкасці боскай нам не ўтрымацца.
"Я навучу!" — ты гаворыш.
"Пасля!"
Далеч. Спякота. Конікаў брацтва.
І прыцяжэння не мае Зямля...

●

*Віргініі ТАРНАЎСКАЙТЭ,*
*прэзідэнту таварыства*
*"Брахма Кумарыс"*

Калі падчас, здаецца, гіну я
Ад цёмнай слепаты людской,
На хутар да цябе, Віргінія,
Я еду — там жыве спакой.

З табою разам мудрасць брамінаў
Нашэптвае, што ўсё цячэ,
Ахутвае, як хусткай мамінай,
Надзея, што прыйду яшчэ

У свет — не купіну іржавую,
Што ў багне шэрае ліпіць,
Дзе над няўдалаю дзяржаваю
Душа ужо не забаліць —

Над бедамі яе і крокамі
Яе дурных правадыроў,
Над апляванымі прарокамі
І пашчамі глухіх двароў.

Вось прыязджаю...
Ціхай Свіліцай
Ідзём, пужаючы гадзюк,
І поўдзень дыхае ў патыліцу,
І сцелецца пад ногі луг,

Як хустка, неба цёмна-сіняе
Лягло краёчкам у ваду...
Суцеш няпраўдаю, Віргінія —
Адсюль ніколі не сыйду...

## СУСТРЭЧА

Праглыну неазбежнасць, як хіну.
Досыць гэтых сустрэчаў-знямог!
Я прыгожая сёння, і кіну,
Захацеўшы, любога да ног.

На штыхах агароджы чыгуннай
Куст расхрыстаны, як анархіст,
І дрыжыць, як палоннік пад гунам,
Кожны, ветрам асвістаны, ліст.

Ты прайшоў — і далёкі, і родны.
Вочы ўбок удваіх адвялі.
Незваротна. Усё незваротна —
І навечна для нас на зямлі.

●

Усё бліжэй да Госпада вяртанне.
Усё далей юначыя грахі.
Як атакоўвалі мяне каханні!
Нібыта Пенелопу жаніхі.

Я ж хмурыла над рукапісам бровы
Ці ісціну шукала у віне.
Уволю пасміхалася з Любові.
...Яна пасля смяялася з мяне.

●

З напятай боскай цецівы
Злятаеш звонкаю стралою.
І свет як цешыцца табою,
Такі чароўны і жывы.

...Цяпер брыдзеш, і грузне крок,
Нібы на бруднай Камароўцы
Зняважылі каўказцы слоўцам
Твой легкаважкі кашалёк.

Ды коўш Мядзведзіцы ўначы
Пытальнікам на неба ляжа,
І ўласная душа падкажа,
Як светлы промень берагчы.

І зноў пачуеш — крык савы,
Таемны шэпат, плач нядужны,
І звон. І — ўзлёт галавакружны
З напятай боскай цецівы...

●

Як жалеза нараджае крыца,
Дажджавыя кропелькі — імжа,
Так магутны імпульс — не скарыцца —
Нараджае спелая душа.

На нябесных вытканая кроснах,
Спеліцца яна, абраўшы кут,
У зямных засушлівых барознах,
У маланках стратаў і пакут.

Перагрузак сэрца не стрывае.
З дошкі шахматнай зляціць ладдзя —
Скаргаў аніякіх не прымае,
Апеляцый не бярэ Суддзя...

●

На Іслачы дождж, і пісьменніцкі дом
Пад ім распластаўся
квадратам панылым.
Мы з Алай Сямёнавай
ціха гаворку вядзём —
Як быццам па пёрку
нарошчваем крылы.

Жанчыне прабіцца скрозь побыту друз
Нялёгка...
Успомніць: "Не хлебам адзіным..."
І, звіўшы гняздо і расклаўшы абрус,
Праз хлеб не прынізіць ні мужа,
ні сына.

Рэактарам ядзерным цвеліцца Час.
Слабыя прад ім чалавечыя сілы.
Ды зноўку мужчыны
прыходзяць да нас,
Як быццам па пёрку
нарошчваюць крылы...

## НА ВОЗЕРЫ ДОЎГІМ

На возеры Доўгім пад вечар
здаўжэлыя цені
Гайдаюцца лёгка, як пругкі чарот і аер,
Як дзікія качкі,
што доўга і цяжка ляцелі,
Каб песняй кахання
ускрыкваць свабодна цяпер.

На возеры Доўгім здзічэлым
стагоддзям не цесна.
І следу няма, хто ўглядаўся
ў падводную глыб,
Хто лашчыў у хвалях свавольных
калісьці тут цела,
Хто прагнуў спазнаць цябе —
толькі ж спачыў каля рыб.

Схілюся смірэнна над люстрам
тваім таямнічым.
Я тут усяго аблачынка,
якая праз міг растае.
І ціха — так ціха, што чутна, як кліча
Душу маю хтосьці — мо той,
хто паклікаў яе?

Хвала, хто цябе бараніў
і зрабіў запаветным
Твой сіні закон —
і жывому навокал хвала!
Вось вёсачка толькі —
стаяла на беразе гэтым
Ды ўслед за XX стагоддзем
у Вечнасць сплыла.

Я цені заспела яшчэ і далёкія песні,
І дотык людскі памятае яшчэ азярод.
І гэтак тужліва, што вёска ужо
не ўваскрэсне,
І гэтак жахліва,
калі не ўваскрэсне народ...

# ЦЯГНІК У ЕЎРОПУ...

(Працяг. Пачатак на стар. 1)

У 30-ыя гады ўслед за мовай быў рэпрэсаваны і беларускі народны касцюм. "По классовому признаку" былі адабраны і зніклі з экспазіцыі лепшыя экспанаты ("одежда кулаков и шляхты").

Вядомы мастак-сцэнограф і мастацтвазнаўца, навуковы кіраўнік кандыдацкай дысертацыі М. Раманюка П. Масленікаў распавядаў, як у Магілёўскім музеі (Масленікаў тады вучыўся ў Магілёўскім педінстытуце) зніклі са стэндаў шыкоўныя народныя строі, і з'явіліся экспанаты, падабраныя па прынцыпе "Як было (дрэнна!) і як стала (добра!)". "Як было дрэнна" ілюстравалі пацёртыя нагавіцы, кашуля ды лапці. Спыніліся экспедыцыі па зборы новых экспанатаў, даследчыцкая работа. А затым, ў час вайны, музейныя фонды былі страчаны.

У 50-я гады неяк стыхійна-інтуітыўна адчуў гэты вакуум у нацыянальнай культуры мастак Лявон Баразна (1928—1972). Самаахвярна, вандруючы з вёскі ў вёску, з вобласці ў вобласць, збіраў ён матэрыял: замалёўваў строі. Выканаў больш за паўсотні выдатных этнаграфічных замалёвак акварэллю. Сярод іх многа строяў "надзвычайных", "экзатычных", гэта значыць, што адрозніваліся ад шаблоннага стэрыятыпу "беларускага сялянскага адзення". Яму не верылі: "придумал все этот националист!". Але адмыслова аформлены альбом у 1958 годзе набыла (а можа быць, правільней сказаць, "изъяла из абращения") дзяржава. Гэты альбом і на сённяшні дзень, наколькі мне вядома, знаходзіцца ў сейфе, як у маўзалеі, таго ж музея без руху, у ганаровай ссылцы. Альбом могуць выдаць "на рукі" нейкаму "даследніку" (быў гэтаму сведкам у пачатку 80-х) без гарантыі на вяртанне, бо, як вядома, "усё можа здарыцца".

Даследніцкі стыль М. Раманюка быў цалкам іншы. Ён узброіўся трыма фотаапаратамі. Адзін з іх — "Пентакон", шыракаплёначны, за 500 рублёў (па тых цэнах — аспіранцкая стыпендыя за 5 (пяць!) месяцаў!). Менавіта гэтым фотаапаратам і былі выкананы ўсе шыкоўныя каляровыя слайды альбома і плакатаў (Раманюк ведаў, што іншыя слайды выдавецтва да друку не прымае). На двух другіх фотаапаратах здымаліся каляровыя слайды для лекцый (на вузкай плёнцы) і чорна-белыя здымкі для архіва. Раманюк дасканальна асвоіў фатаграфію, стаў фактычна адмысловым мастаком-фатографам. Падлічыце, шаноўныя, кошт плёнак, хімікатаў, і... мапеда (!!), бо не ўправіцца грамадскім транспартам. Я наўмысна пералічваю тое, што звычайна застаецца за кадрам, бо хачу развеяць банкетна-рамантычны туман вакол сённяшняга поспеху даследніка. У гэтых падрабязнасцях характар Раманюка, адна з прычын вынікаў: прагматызм.

Ён пачаў татальнае абследаванне-вывучэнне народнага строю, выбраўшы для кандыдацкай дысертацыі раён Заходняга Палесся.

Другі фактар поспеху М. Раманюка — гэта фенаменальная (непадробная!) шчырасць у кантакце з людзьмі, што адкрывала яму недаступныя для іншых матэрыялы. Нагадаю характэрны эпізод. Гурт нацыянальна-свядомых мастакоў і мастацтвазнаўцаў (прабачце мне за такую тэрміналогію, але...), сярод іх і Раманюк, прыехаў на "аб'ект" у вёску — "мастацтва народнае адкрываць". Заходзяць у адну хату, другую, трэцюю... Усім у адказ — "Няма!", "Няма!", "Няма!". За ім ідзе па гэтым жа маршруце Міхась і, як пішуць журналісты, "адчыняюцца куфры".

Трэці фактар поспеху — высокая (надзвычайн!) працаздольнасць, апантанасць сваёй працай. Пасля 2-3-х дзён экспедыцыйнай работы "на полі" дзесяткі чорна-белых і каляровых стужак трэба праявіць, надрукаваць, "кантрольки", наклеіць, падпісаць... Дзесяткі тысяч адзінак архіва даследніка.

Выкананая М. Раманюком работа па зборы матэрыялу раўназначная рабоце "сектара" (іншымі словамі, цэлага калектыву спецыялістаў). У сучаснай беларускай навуцы ёсць адпаведнікі: мовавед Фёдар Янкоўскі. Яго працу ў галіне мовы параўноўваюць з вынікам працы навукова-даследчага інстытута. Адэкватны часу быў і тэарэтычны ўзровень асэнсавання матэрыялу. Альбом "Беларускае народнае адзенне" (1981 г.) — вынік гэтай працы — у пэўным сэнсе адкрыў свету Беларусь. Па службовых абавязках мне даводзілася тады шмат ездзіць, бываць у розных рэспубліках, і я памятаю, з якой цікавасцю, а многія з зайздрасцю, разглядалі нашы строі! Жамойць, Латвія, Эстонія, Украіна, Расійскія рэгіёны, Масква... Эстонскі сцэнограф К. Пюман распавёў, як пераслаў гэты альбом свайму калегу ў Хельсінкі. Праз сістэму кнігарняў "Советская книга" альбом прадавалі ў многіх краінах Еўропы. Калегі бачылі яго на паліцах Югаславіі, Парыжа...

Зрэшты, няма сэнсу абмалёўваць усе сюжэты. Падкрэслю галоўнае: на гэтай фазе "аднаўленчых" работ народныя строі беларусаў былі дакументальна занатаваны і сведчылі, што "колтун в волосах и лыковые лапти литовского происхождения" — гэта далёка не ўсё, што было ў беларускай вёсцы.

Матэрыял сведчыў аб высокай культуры народнага адзення гэтай малавядомай еўрапейскай нацыі. Пасля выхаду альбома і набору паштовак "Беларускае народнае адзенне" (аўтары: Раманюк і мастак У. Савіч, 1981 г.) было распачата выданне серыі (дзевяць штук), двухбаковых плакатаў, прысвечаных асобным строям. Плакат уключаў каляровыя і чорна-белыя фотаздымкі, выкрайкі і апісанні.

1981 год быў, бадай, самы ўраджайны. У Парыжы ў памяшканні Музея Чалавека адбылася выстава "Беларускі нацыянальны касцюм". Падабраў экспанаты з фондаў Нацыянальнага музея і арганізаваў экспазіцыю (апрануў манекены), праводзіў экскурсіі, даваў інтэрв'ю, вядома ж, сам М. Раманюк. (У экспазіцыі рэцэнзуемай выставы прадстаўлены матэрыялы Парыжскай імпрэзы).

З другой паловы 70-х у галіне народна-сцэнічнага касцюма актыўна і вынікова "запрацавалі" вучні даследніка: Г. Юрэвіч, Ю. Піскун, А. Александровіч, В. Дзёмкіна і іншыя. Увогуле, гэта тэма асобнага артыкула, як і некаторыя іншыя сферы дзейнасці М. Раманюка. Зазначым толькі, што за апошнія 20 год некалькі разоў былі "пераапрануты" ўсе нашы прафесійныя і аматарскія, дарослыя і дзіцячыя калектывы народных танцаў, хораў, аркестраў. На сцэну "выйшла" іншая Беларусь, Беларусь сапраўдная, схаваная да часу ў куфрах і адкрытая Міхасём Раманюком.

Многія буйныя беларускія мастакі — Арлен Кашкурэвіч, Уладзімір Савіч, Уладзімір Тоўсцік, Алесь Шатэрнік ды іншыя, натхнёныя вобразамі раманюкоўскіх Мадоннаў, у 80-я гады звярнуліся да тэм, матываў, народных строяў беларусаў.

Усе гады пасля выдання альбома працягвалася работа "на полі", у архівах. Вынікам гэтай працы з'явілася "Карта народных строяў беларусаў" і серыя са 100 малюнкаў — навуковых рэканструкцый, выкананых на падставе рэальных рэчаў і дакументальных фотаздымкаў усіх вызначаных рэгіянальных строяў у межах Рэспублікі Беларусь (нераспрацаваны беларускія строі Падляшша, Віленшчыны, Латгаліі, Пскоўшчыны, Смаленшчыны, Браншчыны, Чарнігаўшчыны, Валыні).

Прадстаўлены на выставе матэрыял засведчыў у спецыфічнай форме гісторыю беларускага этнасу, еўрапейскасць і славянскасць якога вымалёўваецца і глядзіцца пераканаўча і прыгожа. Гэта не ўскраіна расійскага ці польскага этнасу, а самабытная краіна Сярэднеў сходняй Еўропы. У строях выразна выглядае архаічны слой Індa-Еўрапейскай агульнасці і славяна-балцкія карані беларусаў, удзел беларусаў у агульнаеўрапейскім культурным працэсе. Гэты народ жыў і тварыў у часы готыкі і рэнесансу, маньерызму і барока, сэцэсіі.

І ўсё гэта даносіцца гледачу сродкамі надзвычай простымі, зразумелымі (такая спецыфіка жанру!): кроем і структурай, кампазіцыяй, каларыстыкай, аздобаю адзення. Возьмем для прыкладу тыповую для еўрапейскага адзення з'яву — "каўняровую кашулю" ("рубашка с отложным воротником"), усходняя мяжа якой супадае з усходняй мяжой Беларусі.

Манжэты, каптурыкі, гарсэткі... Дзесяткі іншых "дробязяў", "спадарожныя" адметнасці: галаўныя ўборы і прычоскі, характар нашэння вусоў і бародаў, іх "малюнак", эстэтычныя і мастацкія асаблівасці ўпрыгожанняў і г. д. сведчаць аб асаблівасцях нашага адзення, нашай гісторыі. Усе адметнасці нашых строяў, якія цяжка пералічыць: каўнерыкі, валанчыкі, "вусы", гэплікі і г. д. і да т. п., як і іншых народных строяў Еўропы, сталі закартаграфаваны на рэгіянальныя і агульнаеўрапейскія карты. Беларусь перастане быць белай плямай на карце народнага адзення Еўропы.

Збоку і здалёк вельмі добра бачацца тыя адметнасці, да якіх тутэйшыя даследнікі прызвычаіліся, але якія, магчыма, з'яўляюцца самымі істотнымі, важкімі. Прыгадваецца ў сувязі з гэтым выступленне на другім Кангрэсе беларусістаў японскага мовазнаўцы, славіста, які пасля з'яўлення на карце свету ў 1991 годзе Рэспублікі Беларусь зацікавіўся беларускай мовай. У сваім першым публічным выступленні ў Беларусі ён палічыў неабходным падкрэсліць, што беларуская мова, на яго погляд, "класічная ўсходнеславянская мова". Для чытачоў "ЛіМа" каментарыі да гэтай заявы непатрэбны.

Дзякуючы Міхасю Раманюку мы ўскочылі ў цягнік пад назвай "Нацыянальныя касцюмы Еўропы". Здаецца, ці не апошнімі. Калі б спазніўся Раманюк гадоў на 10 — зрабіць гэта было б немагчыма. Спадчына, пацвярджэнне нашай самабытнасці, была б страчана назаўсёды.

**Генадзь СОКАЛАЎ-КУБАЙ**

*Фота Віт. АМІНАВА*



*Міхась Раманюк з маці Алесяй Харытонаўнай.*



*Кобрынскі строй. XIX ст.*



*Наваградскі строй. XIX ст.*



*Дзісненскі строй. XIX ст.*



*Давыд-Гарадоцка-Тураўскі строй. XIX ст.*



*Пінска-Івацэвіцкі строй. Пачатак XX ст.*



*Пінска-Івацэвіцкі строй. Пачатак XX ст.*



*Сабор Святой Троіцы.*



*Інтэр'ер сабора.*

# СУПОЛЬНАЯ НАША НАДЗЕЯ

## РЭПАРТАЖ З ГАЙНАЎКІ

Напачатку некалькі разваг агульнага плана. Справа літаратурнага перакладу заўжды абапіралася на два фактары: матэрыяльная зацікаўленасць і асабістыя кантакты. Гэтыя два фактары да нядаўняга часу падмацоўваліся ў нас дзяржаўнай палітыкай: Савецкі Саюз сябраваў з усім сацыялістычным светам (які сам жа і стварыў) і траціў на падтрыманне добрых адносін немалыя сродкі.

Што мы маем зараз у справе, прынамсі, беларуска-польскіх літаратурных сувязей? Дэпрэсію і ўпадак, як сказаў паэт, прафесар філалогіі Варшаўскага універсітэта Алесь Барскі. Абмеркаваць жа стан спраў у гэтай галіне дазволіла сустрэча літаратараў на Беласточчыне. На гэты раз яна ўяўляла сабой не рэгіянальны міжсабойчык "гэтых і тых" беларусаў, а праходзіла пад сцягамі беларуска-польскага сяброўства, з ініцыятывы і фінансавання польскага боку і пры ўдзеле дыпламатычных службаў Беларусі.

Арганізацыйны бок справы ўзяло на сябе таварыства "Польшча—Беларусь" (старшыня — Б. Хмяліньскі), а матэрыяльнае забеспячэнне — таварыства "Польшча — Усход", якое прадстаўляў тут віцэ-старшыня С. Наўрут. Суарганізатарамі мерапрыемства былі Польскае беларусазнаўчае і Беларускае грамадска-культурнае таварыствы.

Трэба сказаць, што супольнымі намаганнямі вышэйназваных арганізацый праведзена ўжо нямала культурных акцый. Сярод іх і канферэнцыі польскіх і беларускіх гісторыкаў, і алімпіяда па беларускай мове сярод школьнікаў, і выстава беларускай графікі ў Варшаве, і інш.

Ідэя літаратурнай "бяседы" належыць вядомаму польскаму пісьменніку беларускага паходжання Э. Кабатцу, які ўзяў на сябе вядзенне "круглага стала" і выступіў з глыбокім аналітычным дакладам "Перспектывы новага суседства". З польскага боку ў сустрэчы прынялі ўдзел: прафесар, літаратуразнаўца А. Дравіч (ён жа дарадца А. Квасьнеўскага), прафесар, перакладчык Ч. Сенюх, літаратурны крытык Я. Тэрмер, прафесар, украініст Ф. Няўважны, выдавец і нарысіст Р. Карась і многія іншыя. Не засталіся, вядома ж, убаку пісьменнікі Беласточчыны, у тым ліку Ян Чыквін, Сакрат Яновіч, Віктар Швед, Янка Целушэцкі, супрацоўнікі Беларускага музея Гайнаўкі і іншыя.

Што ж да афіцыйнай дэлегацыі з Беларусі, то яна фарміравалася на высокім міністэрскім узроўні, але цяжка і ў арганізацыйных пакутах. Мяняліся то кіраўнікі, то ўдзельнікі. Не абышлося без прыкрых сюрпрызаў: у апошні момант па "тэхнічных" прычынах, звязаных з афармленнем праязных дакументаў, група засталася без кіраўніка — А. Мальдзіса. Яго замяніў дырэктар выдавецтва "Беларусь" М.Кавалеўскі, на якога і лёг асноўны клопат па арганізацыі гэтай паездкі. З пісьменнікаў наш бок прадстаўлялі Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў і аўтар гэтых нататак. Так што да вызначанай колькасці мы не дабіралі, і давялося патлумачвацца перад гаспадарамі.

Месцам правядзення сустрэчы літаратараў стала Гайнаўка, вядомая сваім музеем. Як высветлілася, мілагучная назва належыць зусім не вёсцы, а ладнаму мястэчку з 25-ю тысячамі насельніцтва. Нас прытуліла гарадская ўправа, а бургамістр (альбо мэр) горада Ядвіга Рудзінская-Патэюк — гожая пані, паланістка па адукацыі — распавядала нам не пра колькасць прамысловых прадпрыемстваў, школ і бальніц, а пра высокую місію прыгожага пісьменства. Была дарэчы цытата з класіка: "Што адрознівае чалавека ад звера? Толькі свет культуры".

Пры абмеркаванні праблем беларуска-польскага сумоўя найперш гаварылася пра недахоп аб'ектыўнай інфармацыі, пра немагчымасць атрымліваць беларускую перыёдыку. Хіба гэта не абсурд, калі на яе даводзіцца падпісвацца праз фірму ў Чыкага? Між тым гэтая праблема



*Беларуская гімназія ў Гайнаўцы.*

не па сіле Рэспубліцы Беларусь з 1991 года і сама па сабе з'яўляецца паказчыкам дзеяздольнасці яе кіраўнічых структур.

Адзначалася, што літаратурнае спатканне адбываецца ў новых умовах як для Польшчы, дзе не так даўно адбыліся прэзідэнцкія выбары, так і для Беларусі, дзе тыя самыя выбары шмат што змянілі не ў лепшы бок. Тым не менш, "багатая Польшча" ў справе папулярызацыі літаратуры суседзяў робіць усё ж менш, чым "бедная Беларусь".

Было падкрэслена, што беларусы — адзіная нацыянальная меншасць у Польшчы, якая мае сваю літаратуру; трое яе прадстаўнікоў уключаны ў энцыклапедыю "Пісьменнікі свету". (Дарэчы, у гэтым выданні ёсць імёны 56 беларускіх пісьменнікаў, прычым з іх толькі 15 празаікаў і адзін драматург, ды і выбар персаналіяў крыху дзіўнаваты.)

Адносна беларускай літаратуры на польскай мове цікавыя лічбы прывёў Ян Чыквін. У бібліяграфіі перакладаў — каля паўтары тысячы адзінак, а па дзесяцігоддзях яны размеркаваны так: 40-ыя гады — 43 творы, 50-ыя — 350, 60-ыя — 180, 70-ыя — звыш 500, 80-ыя — 318. 90-ыя гады адзначаны рэзкім спадам.

Сакрат Яновіч спыніўся на пытанні кнігаабмену. Чаму пісьменнікі Беласточчыны не могуць прадаваць свае кнігі, скажам, у Гародні? Чаму яны мусяць везці іх на Беларусь самаручна, "кантрабандай"? Мы не можам існаваць без кніжнага рынку, і гэта не наш асабісты інтарэс, а інтарэс усёй літаратуры, сказаў С. Яновіч.

Беларускі бок у сваіх выступленнях схіляўся да агульных праблем культуры, якія сёння ў нас маюць месца. На жаль, мы не вельмі валодалі інфармацыяй, інакш на пасяджэннях абавязкова прагучалі б імёны Лесьмана і Норвіда, чые творы пераклаў на беларускую мову А. Мінкін. Беларуска-польскаму ўзаемадзеянню ў Брэсце і Гародні прысвечаны трэці выпуск "Беларусікі" (Скарынаўскі цэнтр), а ў Віцебску выйшла аналагічнае даследаванне па лініі вышэйшай школы. У нашым актыве таксама гістарычны раман "Сейм Рэчы Паспалітай" (на рускай мове) лаўрэата Нобелеўскай прэміі У.Рэйманта, пра што не забыўся сказаць кіраўнік нашай дэлегацыі. Згадваўся і ўзноўлены па-беларуску С.Лем (пераклад М.Валошкі).

Адносна пісьменніцкіх суполак было сказана, што на іх дапамогу разлічваць не выпадае, яны ўжо не вырашаюць стратэгічных пытанняў літаратуры. У гэтым плане абнадзейвае наяўнасць кантактаў і адпаведнага пагаднення па лініі міністэрстваў культуры нашых краін.

А. Барскі паведаміў пра падрыхтоўку вялікага беларуска-польскага слоўніка. На яго думку, варта было б абмяняцца салíднымі паэтычнымі анталогіямі. "Супольны боль, супольны неспакой, супольная надзея", — гэтыя словы прызнанага лідэра беларусаў у Польшчы прагучалі дэвізам пісьменніцкай сустрэчы ў Гайнаўцы.

З улікам эканамічных варункаў усе пагадзіліся з тым, што пра грандыёзныя планы разважаць няма сэнсу. "Ажыццяўляць канкрэтныя праекты, рухацца малымі крокамі да большага" — так абазначыў сутнасць сённяшняй сітуацыі ў беларуска-польскіх стасунках М. Кавалеўскі. З ухвалаю была ўспрынята вестка пра намер адкрыць цэнтры беларускай культуры ў Варшаве, Беластоку, Любліне, Познані. Што ж да консульства РБ, адкрытага ў Беластоку (яго ўзначальвае М. Слямнёў, які садзейнічаў нашай паездцы і прыняў удзел у гаворцы), то, як прызнаўся адзін з тамтэйшых беларусаў, "нам такое і ў сне не магло прысніцца".

Культурная праграма сустрэчы ўключала ў сябе агляд мясцовага праваслаўнага сабора — адметнага архітэктурнага збудавання, узведзенага на грошы вернікаў, і прагляд спектакля "Польскія пастаралькі" — густоўнай кампазіцыі з вершаў і калядных песень. Адбылася таксама экскурсія ў Белавежу. Мы паглядзелі вялікі музей, дзе прадстаўлены асноўныя віды фауны і флоры Белавежскай пушчы, а ў куточку рамёстваў вісіць ярмо, здадзенае ў музей яшчэ дзедам А. Барскага. "Я не аддаў бы", — жартуе паэт... Маю ўвагу запыніў зрэз векавога дуба, які быў сведкам трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, бачыў напалеонаўскае войска, паўстанцаў, немцаў... Ён расказваў пра гісторыю Польшчы лепей, чым якая-небудзь карта. А калі наперадзе аўтобуса праз дарогу важна пратупала чарада зуброў, хтосьці з нашых кінуў рэпліку: "Гэта ж трэба — і зуброў арганізавалі!"

Што арганізацыя была на вышэйшым узроўні — гэта не камплімент, а канстатацыя факта. Адзінае, чаго, бадай, не хапала — гэта прадстаўнікоў прэсы. Ні фота-, ні проста карэспандэнты са сталічных газет заўважаны не былі. Як, зрэшты, і з беластоцкай "Нівы". Засталося невядомым, ці апошніх не запрасілі, ці яны праігнаравалі падзею з нейкіх сваіх меркаванняў. Нас мала ўсцешыла вестка пра палітычны раскол у шэрагах беластоцкіх беларусаў, да якога і спрычынілася "Ніва". Паколькі ні "Салідарнасць", ні камуністы ніколі ўсур'ёз не лічыліся з патрэбамі беларускай дыяспары, то пазіцыя газеты па меншай меры здзіўляе. Няўжо ў краі ўсё так добра з правамі нацыянальнай меншасці? Нам давялося выступаць у пачатковых школах і ліцэях — самой Гайнаўкі, Нарэва, Бельска Падляскага, у школе, дзе праходзіў раённы конкурс дэкламатараў. Чысценькія памяшканні, уважлівыя, гасцінныя педагогі і... неразуменне ў дзіцячых вачах. Склалася ўражанне, што беларускае слова тут даўно забылі, і даводзіцца прыкладваць немалыя намаганні, каб яно не знікла канчаткова.

Я. Сычэўскі, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое сёлета адзначыць сваё 40-годдзе, якраз і гаварыў аб праблеме нацыянальнай саматоеснасці краю, аб важнасці культурных сувязей з Беларуссю. Ён зазначыў, што беларуская культура на Беласточчыне — з'ява натуральная і што адна з задач таварыства — не дапусціць духоўнага заняпаду.

Пагроза гэткай жа невясёлай перспектывы адчувальная і для самой Беларусі. Зрэшты, палітыку — па агульнай дамоўленасці — мы чапаць не сталі. І хоць са свайго боку не ўзялі на сябе смеласці абяцаць, што наступная такая "бяседа" адбудзецца на нашай ужо тэрыторыі, але што яна цалкам рэальная — не выклікае сумнення.

Здаецца, я штосьці ўпусціла... Ах, вогнішча ў Белавежы! Сярод заснежанай пушчы і класічнага марозу яно так весела трашчала, што сагравала не толькі нашыя твары, але і сэрцы. Хай успамін пра яго і будзе апошняй кропкай гэтага рэпартажу.

*Мінск—Гайнаўка—Мінск*

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**наш спец. кар.**

знікае.

Старая, нешта мармычучы, сунецца паўз мяне.

— Вой, гэта ў вас кошыкі? Але я не бачу, няма вачэй, — нібы спахопваецца яна.

Адно вока, і праўда, нібы выцекла, але ж другое на выгляд нармальнае.

— Сын? — ківаю ў той бок, куды знік малады чалавек.

— Сын, — пацвярджае яна, грукае дрынам і паволі сунецца супраць людскога патоку недзе туды, да выхаду к ГУМу.

Мабыць, кожны дзень прыходзіць у пераход то адзін, то з жанчынаю высокі хлопец. Пад гітару спявае рускія народныя песні, перайначваючы не то Козіна, не то Слічэнку. Хораша спявае, голас магутны, оперны, перамагае ўсе шумы, што пануюць у пераходзе, далятаюць з вуліцы. І бесперапынку, песню за песняю. Калі і жанчына з ім, то на два галасы. Канцэрт цягнецца гадзіны дзве. Зрэдку хтосьці падыходзіць, штосьці кладзе. Не ведаю, які заробак у спевака, але ж калі не цураецца чалавек такое работы, то нешта ж, мусіць, перападае.

Апошнім часам яму не шанцуе, канцэрты скарачае да гадзіны. Даводзіцца залішне напружваць голас, каб перамагчы і магнітафон са стала з касетамі. Амаль кожны пакупнік тут патрабуе пракруціць стужку, хоць бы пачатак, каб пачуць якасць запісу. І на ўсё падзямелле разносіцца абмузычаная інструкцыя, як прыгатаваць наркотык: "Конопли накошу... я ее насушу... под паром распару и аккуратно под пресс..." І яшчэ нешта пра кайф і пажаданне: "Пошли вы все на х..."

Вечарам ужо не злева ад мяне, а справа, на выхадзе чуваць цудоўны лірычны тэнар. Спявае хлопец, можа, бард, незнаёмыя, мо свае песні. Так і хочацца падысці да аднаго, да другога, сціснуць, страсянуць за плячо: "Хлопцы, што вы робіце?! Чаму не шкадуеце свой божы дар? На холадзе, на скразняках..."

Так творыцца злачынства. Не з іх боку — Хрыстос ім суддзя, мо і праўда галадаюць. А з боку дзяржавы перш за ўсё. Да чаго давялі людзей мастацтва! Дойдзе да таго, што ўслед за класікам будзем усклікаць: "Колькі талентаў звялося, колькі іх і дзе ляжыць! Невядомых, непрызнаных, неаплаканых нікім..."

Прэзідэнтавы паказныя клопаты аб работніках мастацтва, культуры, абяцанкі таго-сяго з іх — не больш, чым па пятнаццаць чалавек, падтрымаць — бесталаннае, наскрозь прасякнутае палітыкаю шоу. Робіцца з адною мэтаю — падзяліць работнікаў культурнай сферы, перасварыць. А хіба не гэтак рабілі, не гэтак лашчылі выбраных культурных служкаў партбосы ў зусім яшчэ недалёкія часы!

## МОЙ "ЭЛЕКТАРАТ"

Мо ў маім выпадку і не падыходзіць гэтае моднае замежнае слоўца. Развялося іх цяпер, гэтых модных і замежных, як тых вошай у цяжкі і скрутны для народа час. Але прыхільнікаў майго рамяства, хобі шмат, хоць купляюць вырабы мо толькі які дзесяты-дваццаты з іх.

Убачыць такі чалавек выстаўку-продаж на падаконніку і зварочвае да мяне. А на твары ўжо і прыязная ўсмешка, і вочы маладзеюць, у іх ужо здзіўленне прагля́дваецца і захапленне: "Кошыкі? У сталіцы?! І мой бацька некалі..." І пайшло: "А от наш дзед умеў плесці з расколатай ляшчыны, з карэньчыкаў..." — "А прадаўгаватыя вы можаце?" — "А палавінкі такія, на сценкі вешаць, для кветак?"" — "А кантовыя, вялікія, і каб борцікі невысокія? Я б на падлогу яго паставіла і вазоны туды. У мяне цэлы зімовы сад у кватэры..." — "А для бялізны можаце сплесці?" — "А для кошкі? Каб большы за гэты ваш вялікі і шырэйшы". — "Магу і для кошкі, калі пані заказвае, то давайце канкрэтна дамаўляцца". І дамовіліся, і прывалок, а мадама не прыйшла. Ці забылася, ці яе кошка, царства ёй нябеснае, загадала доўга жыць.

"Адно злучэнне абруча бачу. А дзе другое, куды вы яго прыхавалі?" І я паказваю куды. "А як вы во тут злучаеце? Не атрымліваецца ў мяне". — "А так вось і так. Сакрэтаў фірма не хавае". Прытэпала бабка: "Можа б вы, мой адрамантавалі? Дужка ў ім зламалася. А такі харошы быў, гадоў дзесяць служыў".

Некалькі разоў кашы бралі палякі, расіяне. Гм, што ў іх — плесці няма каму ці лаза павысыхала? А мо проста паквапіліся на нашы, бо танныя?

Адзін хлопец-палячок, а мо касіў пад паляка, рашыў падсмяяць мяне з маім бізнесам. "Ух ты! — нібыта спачатку захапіўся кошыкам, пакруціў у руках, памацаваў. — А ў яго ў туалет хадзіць можна?" — "Можна, — кажу, — толькі старайцеся гусценькім".

Купляюць больш жанчыны. Яны і больш мяккія душою, і практычныя, і адважныя: фінансы ў іх руках, сямейны бюджэт. А сярод жанчын больш тыя, што бліжэй да мастацтва, музыкі, сентыментальныя дзяўчаткі "субцільныя суперфлю" (нячысцік яго ведае, што значаць гэтыя словы, але, здаецца, да месца), і аматаркі экзотыкі, якім для поўнага шчасця толькі і не хапае паставіць на палічку такі сувенір. Маўляў, выйшлі мы ўсе з народа... А хто-ніхто, яшчэ ад мяне не адышоўшы, ужо размяркоўвае-прыстасоўвае кошыкі: гэты на часнок, гэты пад цыбульку; пад садавіну, пад ягады; па яйкі хадзіць у магазін, яйкі насіць у царкву свяціць на Вялікдзень.

А колькі парад наслухаешся, прапаноў! "Вы такія во круглыя, высокія пляціце, з дзвюма ручкамі!" — "Вы б летам плялі, к сезону! Са свістам бы пайшлі..." — "Летам, — кажу, — дубцы яшчэ растуць, яны травяністыя, няспелыя". "Надта ж густа плецяце, радзей на бульбу трэба, каб зямля высыпалася". — "А з алюмініевага дроту зможаце? На бульбу? Я б вам бухту прывалок..." — "Магу, але не хачу. Хімічыць нецікава". — "Вы б па два-тры кашы за дзень плялі, тады б нешта зарабілі. А так..." — "Калі ўсё падрыхтавана, усё пад рукою, то, пастараўшыся, можна і два сплесці. Але потым чатыры дні ў рукі дубец не возьмеш". — "Чаму гэта?" — "Здзіраецца скура з пальцаў аж да крыві, як наждаком". — "А-а-а..." — разяўляе субяседнік рот і забывае стуліць.

Падышоў выдавецкі работнік, пісьменнік. "Ах, ах, якраз грошай няма... А так бы і я купіў, і многія ў нас купілі б". Абяцаю яму наплесці і цэлы мяшок прывалакчы ў выдавецтва. А пакуль што стаім з ім, гамонім. Пачуўшы беларускую гаворку, спыняюцца каля нас двое мужчын. Адзін вышэйшы, мажнейшы, другі меншы і шчуплейшы, збедніўся, небарака. Ну рыхтык Шчасліўцаў і Нешчасліўцаў з п'есы А. Астроўскага. Абодва "пад мухаю", асабліва меншы, нейкі недагледжаны, занядбаны. Выдавецкі работнік развітваецца, бо Шчасліўцаву хочацца пагаварыць, ён старанна падбірае беларускія словы. Знаёмімся. Шчасліўцаў, назваўшы таварыша, некалькі разоў гаворыць: "Круглы сірата! Круглы сірата, з дзіцячага дому". Працуюць у нейкай рэстаўрацыйнай фірме, помнікі архітэктуры, дойлідства аднаўляюць. Шчасліўцаў нешта чытаў маё, нават адна кніга мая ёсць у яго дома. Але без аўтографа. "Прыходзьце да мяне ў госці, прашу вас! Пасядзім, пагаворым, як белыя людзі, чайку (ён націснуў на слова) пап'ём. Эх, ну што з вамі рабіць?! — пытанне гучыць рытарычна, Шчасліўцаў хоць і звяртаецца да мяне, але паглядвае на Нешчасліўцава, нібы шукае ў таго падтрымкі. — Хіба каб падкінуў вам якую тысячу?"

Вядома, нечаканы мецэнат меў на ўвазе долары. "А як жа я аддам іх вам ды яшчэ з працэнтамі?" — кажу яму, быццам не разумею сказанага. Шчасліўцаў маўчыць, вагаецца, думае, урэшце зноў паўтарае запросіны "на чаёк", дае свой тэлефон. Бярэ пад паху Нешчасліўцава, які зусім ужо скіс на падаконніку, вядзе з падзямелля.

Халера ясная... Мо я дурны? Згубіўся недзе яго тэлефон. А так бы...

А што — "так бы"? Пайшоў бы? Такі поп, што прымаю і боб? А ці не "шуба с барского плеча" гэта? Ці не тая самая падачка ў руку жабрака, толькі ў большых памерах?

Трымайся, Павел Андрэевіч, трымайся. Жабрачы хлеб — сабачы.

"...Настальджыя каналья"... Як усё-такі пакутуюць ад гэтага людзі!

Высокая жанчына, мо канадка ці англічанка ў трэцім пакаленні. Гаворыць па-руску слабавата, але ўсё можна зразумець. "Вэры найз, вэры найз!.." — доўга паўтарае яна, круцячы маленькі кошык у руках. Схадзіла нават да кветніц, абгледзела кошык пры белым святле. А на твары шчасце дзіцяці... Плаціць не задумваючыся, і я ўжо ўшчуваю сябе, што назваў малую цану. Што — гэта ў яе адгукнуліся гены сельскіх беларускіх продкаў? Хоча прывезці дзеду вітанне з далёкае радзімы?

А вось бабуля з Гомельшчыны, з забруджанай зоны...

— Вы тут часта бываеце? — уздыхае яна. — Пенсію я яшчэ не палучыла, запазніліся грошы ўжо на дзесяць дзён.

— Не часта, але бываю. Калі ёсць з чым.

— Я купіла б у вас хараство гэта, на балконе трымала б, — гаворыць і выцірае слязу. — Выйшла б, памалілася на яго, паспавядалася б, паплакала...

— А чаму на балконе, цётка? Калі даспадобы, то ў хаце трымайце, на ганаровым месцы.

— А каб мае маладыя не бачылі... Смяяцца будуць, не зразумець ім гэтага.. А я от гля-джу на кошыкі і ўсё-ўсё сваё успамінаю, вёску. Так пячэ ў грудзях, так горна... не выт рываць...

Спыняецца знаёмы навуковец-этнограф.

— А ці ведаеце вы, што гэты во ромбік у кашы, зорачка, што змацоўвае абручы, — салярны знак? Сімвал сонца ў нашых старажытных продкаў!

— Вунь яно што-о... А я думаў, на ручніках толькі ёсць, на вышыўках.

Сонца ў маіх руках... Я сам ствараю яго! Я памнажаю сонца, людзі! Каб усім яго хапала, каб усім жыццядайна свяціла, прыносіла радасць і надзею на лепшае.

---

ПРАВАДЫР. Ага! "Тайны ўказ нумар..." Нумар потым падставім, у канцылярыі пагля́дзець трэба... "Цяжкая навала навісла над нашай дарагой Тубыліяй... Паддаўшыся тайным ворагам і правакатарам, наш мудры народ канчаткова страціў розум і запатрабаваў немагчымага... Штаны, калі іх даць усім, разораць краіну, знішчаць армію. А без арміі мы — нішто! Нуль без палачкі! Абібія паставіць нас на калені, зробіць сваімі рабамі. Перад намі адна альтэрнатыва — свабода альбо штаны"! Ну, як?

ЖРЭЦ. Мудра, мой Правадыр!

ПРАВАДЫР. Пішы далей!.. "Сітуацыя ў Тубыліі робіцца надзвычай небяспечнай і патрабуе нетрадыцыйных, экстра..."

ЖРЭЦ *(падказвае)*. "Экстраардынарных!"

ПРАВАДЫР *(працягвае дыктаваць)*. "...экстраардынарных мер. У гэтай сувязі, з мэтай абуджэння ў народа патрыятычных пачуццяў загадваю: арганізаваць змову супраць Правадыра... Гэта значыць, супраць мяне... На чале змовы назначаю Ваеннага Міністра. Яго намеснікам — Галоўнага Жраца..."

ЖРЭЦ *(занепакоена)*. Мой Правадыр! Мы ж так не дамаўляліся!

ПРАВАДЫР. Хіба? Ну, гэта ж само сабой. Ідэя ж твая!

ЖРЭЦ. Хапіла б і аднаго Ваеннага Міністра.

ПРАВАДЫР. Адзін не справіцца. Дзе гэта вы бачылі, каб у змове ўдзельнічаў адзін чалавек. Павінна быць хунта. Я назначаю вас дваіх. А хунту падбераце сабе самі.

*Дзіўная метамарфоза адбылася з Ваенным Міністрам. Паступова, слухаючы дыктоўку Правадыра, ён на вачах робіцца іншым чалавекам — упэўненым, рашучым, натхнёным.*

МІНІСТР. Мой Правадыр!.. Але ў час перавароту страляюць...

ПРАВАДЫР. Ну, вядома, страляюць! Які ж пераварот без страляніны?

МІНІСТР. А... у каго сталяць?

ПРАВАДЫР. Абы ў каго! З усіх відаў зброі! Але халастымі. Кіньце на вуліцы танкі, самалёты, ракеты! Ды паболей, паболей!

МІНІСТР. Мой Правадыр! У нас няма халастых ракет.

ПРАВАДЫР. Шкада. Ну, тады ракетамі не страляйце. З усіх відаў зброі, апрача ракет.

ЖРЭЦ. Гэта запісаць ва ўказ?

ПРАВАДЫР. Не, гэтага не трэба. Давай я падпішу ўказ! *(Падпісвае і кладзе ў сейф)*.

МІНІСТР. Для каго гэты ўказ, калі ён тайны?

ПРАВАДЫР. Ну, я ж сказаў!.. Для гісторыі. Для нашчадкаў. Хай ведаюць, якімі былі іх дзяды і прадзеды. Як лёгка было ім управіцца з нехлямяжым народам!

МІНІСТР. А што ты будзеш рабіць з ім?

ПРАВАДЫР. З народам?

МІНІСТР. З указам...

ПРАВАДЫР. Ён будзе знаходзіцца ў сейфе! Пад сямю замкамі.

МІНІСТР *(нечакана цвёрда)*. Ключ мне!

ПРАВАДЫР *(толькі зараз заўважыў, як змяніўся Міністр)*. Што ты сказаў?

МІНІСТР. Тое, што ты пачуў. Ключ ад сей-фа павінен быць у мяне!

ПРАВАДЫР. Такога прэцэдэнту яшчэ не было, каб ключ ад правадырскага сейфа быў у некага іншага!

МІНІСТР. Але і ўказа такога яшчэ ніколі не было! Ключ!

ПРАВАДЫР. Як ты размаўляеш? Што за тон? Не забывай, хто я, а хто ты!

МІНІСТР. Я — смертнік! Я — кіраўнік дзяржаўнага перавароту. Мае правы неабмежаваныя! А ты — ахвяра, пакутнік! Ты арыштаваны!

ПРАВАДЫР. Ё маё! Жрэц! Ты чуеш, што ён плявузгае?

ЖРЭЦ *(Міністру)*. Не спяшайся. Час "ікс" яшчэ не наступіў. Яго ж падрыхтаваць трэба.

МІНІСТР. А няхай ён аддасць ключ! А то ніякага перавароту не будзе! Ключ ад гісторыі павінен быць у мяне!

ПРАВАДЫР. Ты не даяраеш гісторыю сваму Правадыру?

МІНІСТР. У такой справе нельга давяраць нават Богу! Ключ!

ЖРЭЦ. Аддай ты яму ключ.

ПРАВАДЫР. На, падавіся! Шантажыст ты, а не Ваенны Міністр!

*Кідае ключ Міністру, той спрытна ловіць яго.*

МІНІСТР. Не разуміся надта! А то вазьму і перадумаю.

ПРАВАДЫР. Згінь з вачэй! Ідзі і пачынай калізей!

МІНІСТР. Я павінен усё добра абдумаць. План будзе гатовы ўвечары.

ЖРЭЦ. Табе не трэба думаць. У мяне ўжо ёсць план.

ПРАВАДЫР. Вось у каго вучыся, недавярак! З чаго ўсё пачнецца?

ЖРЭЦ. Спачатку трэба арганізаваць уцечку інфармацыі.

ПРАВАДЫР. Арганізаваць... што?

ЖРЭЦ. Уцечку інфармацыі. Трэба зрабіць так, каб пра наш пераварот спачатку даведаліся ў Абібіі...

ПРАВАДЫР. Ты што?! Абібія гатова нас у лыжцы ўтапіць!

ЖРЭЦ. Вось іменна таму яна і павінна даведацца пра змову першай. А мы ўжо — ад яе. Прычым, ў самы апошні момант, калі ўжо змову нельга будзе апярэдзіць. Апрача ўсяго, у нас павінен быць яшчэ вельмі надзейны козыр супраць Абібіі... Чаму яна першай дазналася пра нашу змову?

ПРАВАДЫР. Ага! Сапраўды — чаму?

ЖРЭЦ. Таму што сама гэтую змову арганізавала! Абібія! Вось куды вядзе след!

*Паўза.*

ПРАВАДЫР. А ці нельга гэтую ўцечку арганізаваць як-небудзь прасцей? Больш надзейна.

ЖРЭЦ. Нельга. Будуць відаць белыя ніткі.

ПРАВАДЫР. Чаму?

ЖРЭЦ. Калі інфармацыя аб пераваро це пойдзе ад нас, ды яшчэ заўчасна, ты мусіш апярэдзіць пераварот і схапіць яго ўдзельнікаў! А калі ты яго схопіш *(паказвае на Міністра)*, ён не паспее цябе арыштаваць. У нас жа ўсё адно за адно чапляецца.

ПРАВАДЫР. А без майго арышту ніяк нельга абысціся?

ЖРЭЦ. Дык гэта ж самае галоўнае — твой арышт! Калі людзі пачалі маліцца на Ісуса Хрыста? Калі яго распялі. Калі ён цябе не арыштуе, каго будзе шкадаваць народ? Хто будзе пакутнікам?

ПРАВАДЫР. Гм... Сапраўды... А як Абібія даведаецца пра наш пераварот?

ЖРЭЦ *(паказваючы на Ваеннага Міністра)*. А гэта ўжо яго клопат!

МІНІСТР. Мне што, у палон ісці здавацца?

ЖРЭЦ. Навошта ж у палон? У цябе ёсць на прыкмеце разведчык Абібіі?

ПРАВАДЫР. Не можа такога быць, каб у нас не было ніводнага іхняга шпіёна!

МІНІСТР. Ёсць...

ЖРЭЦ. Хто ён?

МІНІСТР. Яна. Дзяўчына. Дваццаць пяць гадоў. Клічка "Путана".

ЖРЭЦ. А яна што, путаніць?

МІНІСТР. Маскіроўка. Узяла такую клічку, каб можна было без падазрэння прымаць сувязных.

ЖРЭЦ. Прыгожая?

МІНІСТР. Аж занадта.

ЖРЭЦ. Шанцуе табе, Міністр! Відаць, у кашулі нарадзіўся.

МІНІСТР. Не разумею...

ПРАВАДЫР. Ён кепска спаў сёння!

ЖРЭЦ. Ты павінен зрабіць яе сваёй палюбоўніцай.

МІНІСТР. Што ты вярзеш?

ЖРЭЦ. Ты павінен зрабіць усё, каб яна цябе спакусіла.

МІНІСТР. Дзякую. Мне гэта ўжо непатрэбна.

ЖРЭЦ. Дзяржаве патрэбна.

МІНІСТР. Дзяржаве патрэбна, каб яна мяне... спакусіла?

ЖРЭЦ. Іменна! У той самы момант, калі яна будзе цябе спакушаць, ты ў экстазе і шапнеш ёй пра змову. Возьмеш уцечку інфармацыі на сябе. Мы нікому не можам даверыць такую адказную справу. Акрамя цябе. Трэба, каб усё выглядала натуральна.

МІНІСТР. Але я не магу спакусіцца!

ПРАВАДЫР. Ну і дурыла! Табе сам Бог чырвоную кветачку пасылае, а ты яшчэ носам круціш!

МІНІСТР. Я Ваенны Міністр! На мяне глядзіць уся армія!

ПРАВАДЫР. Ніхто на цябе ў той момант глядзець не будзе!

МІНІСТР. Я стары, хворы чалавек! Я ўжо не ведаю, як гэта робіцца!

ПРАВАДЫР. Стары, хворы, а займаеш пасаду Ваеннага Міністра!

МІНІСТР. Ды асабіста я не супраць. Але ў мяне гэта не атрымаецца!

ПРАВАДЫР. Сімулянт ты! Яшчэ не спрабаваў, а ўжо аднекваешся!

МІНІСТР. Я імпатэнт...

ПРАВАДЫР. Ё маё! Ты спачатку Ваенны Міністр, а потым імпатэнт!

ЖРЭЦ. Ну, гэта не бяда. Я прышлю табе свайго ўрача. Ён зробіць такі ўкол, што ты на сценку палезеш!

МІНІСТР. Я баюся...

ПРАВАДЫР. Каго?

МІНІСТР. Ундзіны. Калі яна даведаецца... Мне лепш рукі на сябе налажыць ці ў прочкі пайсці...

ПРАВАДЫР. А яна не павінна ведаць. Гэта ж дзяржаўная тайна, якую ведаем толькі я, ён і ты. Але ж мы — магіла!

МІНІСТР. Ад яе нічога не схаваеш. Яна Штырліц ад Бога! Ты яе не ведаеш...

ПРАВАДЫР. Чаму не ведаю? Ведаю... *(Спахапіўшыся, што сказаў лішняе.)* Ведаў калісьці. Баба, як баба. Табе калі на пенсію?

*Паўза.*

МІНІСТР. Я згодзен. Але за поспех гэтай аперацыі я не ручаюся. Не той узрост. Не па Сеньку шапка...

ЖРЭЦ. Мой доктар зробіць з цябе сексуальнага маньяка!

ПРАВАДЫР. Калі чалавеку давяраюць лёс дзяржавы, пра ўзрост не пытаюць. Ідзі і пачынай уцечку інфармацыі. *(Да Жраца.)* Добра прадумай, каго ўзяць у хунту. Людзі павінны быць вядомыя і надзейныя.

ЖРЭЦ. Само сабой. Жэўжыкаў на такую справу не возьмеш...

*Жрэц і Ваенны Міністр выходзяць. Застаўшыся адзін, Правадыр праверыў, ці добра зачынены дзверы, пашукаў і знайшоў у стале яшчэ адзін ключ, адчыніў сейф, узяў адтуль указ і ўрачыста, шматзначна спаліў яго.*

ПРАВАДЫР. Ха! Знайшлі жэўжыка!..

*Заслона.*

# ЦЯПЛО БРАТНЯГА СЭРЦА

## АНТАНАС ВЕНЦЛАВА І БЕЛАРУСЬ

Цягнік павольна набліжаўся да перона мінскага вакзала. За вокнамі вагона гуляла снежная завея. Антанас Венцлава, пісьменнік, народны камісар асветы Літоўскай ССР, звярнуўся да свайго спадарожніка Пятраса Цвіркі:

— Цікава, як сустрэнуць нас беларусы? Як паставіцца Янка Купала да нашага прыезду?..

— Хвалюецеся?

— Яшчэ як! Даўно ведаю і захапляюся яго творамі. Хачу як найлепш выказаць свае пачуцці.

...Тэатр оперы і балета сустрэў літоўскіх гасцей яркімі агнямі.

Было 8 снежня 1940 года — святочны дзень для Беларусі, яе культуры: адзначалася 35-я гадавіна літаратурнай дзейнасці народнага песняра. Янку Купалу натхнёна віталі Аляксей Суркоў і Сяргей Гарадзецкі, украінскі паэт Тарэнь Масэнка, яўрэйскі — Самуіл Галкін, беларускія сябры па пяры. Сказаў прывітальнае слова і А. Венцлава. Пазней ён успамінаў пра тыя незабыўныя хвіліны: "Узыходзячы на трыбуну, залітую яркім святлом пражэктараў, я хваляваўся. Але хутка, адчуўшы цёплыя позіркі людзей, я сказаў тыя словы, якія даручылі сказаць сябры, праводзячы мяне ў Мінск".

Іван Дамінікавіч уважліва слухаў А. Венцлаву, застаўся ўдзячны яму за добрыя пачуцці і запрасіў яго разам з іншымі да сябе на вячэру.

А. Венцлава праз гады пранёс памяць пра тыя светлыя гадзіны, што правёў з Купалам, Коласам і іншымі беларускімі паэтамі: "Апынуўшыся ў асяроддзі малазнаёмых людзей, мы адчулі сябе так, як можна сябе адчуваць у кампаніі добрых сяброў". На А. Венцлаву незабыўнае ўражанне пакінулі прастата, прывабнасць і ўважлівасць Купалы да людзей. З той памятнай сустрэчы ў заснежаным Мінску ён да канца жыцця не пераставаў цікавіцца беларускай літаратурай, мінулым і сучасным рэспублікі-суседкі. Услед за Купалам і Коласам у яго біяграфію ўвайшлі П. Броўка, П. Глебка, М. Танк, К. Крапіва, М. Лынькоў і іншыя нашы пісьменнікі.

А праз некалькі месяцаў А. Венцлаву пашчасціла зноў сустрэцца з беларускімі класікамі: у маі 1941 года Купала і Колас наведалі Літву. Як вядома, у Вільні яны па сутнасці пачыналі свой творчы шлях і грамадскую дзейнасць, тут, на старонках "Нашай Нівы", друкаваліся іх творы. Госці азнаёміліся з беларускім музеем, наведалі Акадэмію навук Літвы, сустрэліся з вучнямі сярэдняй беларускай школы. Літоўскія пісьменнікі разам з Купалам радаваліся, што яму пашчасціла адшукаць нямала сваіх ранніх рукапісаў і рэдкіх беларускіх выданняў, якія ў свой час выйшлі ў Вільні.

Шчыра сустракалі іх вучоныя і студэнты. А. Венцлава пазнаёміў гасцей з літоўскімі пісьменнікамі Вінцасам Мікалайцісам-Пуцінасам, Альбінасам Жукаўскасам і іншымі, прысутнічаў пры сустрэчы Янкі Купалы з сябрам маладосці Людасам Гірам.

А. Венцлаву ўсхвалявалі і ўзрушылі публіцыстычныя выступленні Купалы, што з'явіліся ў першыя месяцы вайны ў цэнтральным друку. Яго апалілі словы паэта нянавісцю да ворага, палкай любоўю да роднай зямлі. Артыкул Купалы "Германскі фашызм — люты вораг беларускага народа" С. Нярыс адразу ж пераклала на літоўскую мову, і патрыятычны заклік да свяшчэннай барацьбы з захопнікамі быў перакладзены па радыё на акупіраваную ворагам тэрыторыю Літвы.

Глыбокае ўражанне пакінуў на А. Венцлаву, як і на іншых літоўскіх пісьменнікаў, верш Купалы "Беларускім партызанам". "Прыклад Янкі Купалы як паэта, грамадзяніна-патрыёта, — сведчыў Венцлава, — меў вельмі вялікі ўплыў на паэтаў Савецкай Літвы, якія вучыліся ў яго, як трэба аддаваць усё сваё літаратурнае майстэрства на барацьбу з ворагам".

У Вялікую Айчынную вайну А. Венцлава некалькі разоў сустракаўся з Купалам. Беларускі пясняр падтрымліваў у ім веру ў перамогу: "Нічога, мы зноў вернемся ў Мінск, у Вільню, — помню, гаварыў Янка Купала. — Усе сумленныя людзі з намі, і перамагчы нас немагчыма".

А. Венцлава праводзіў Купалу ў апошні шлях. Ён тужыў аб заўчаснай смерці слаўнага сына беларускай зямлі. "Нельга было не любіць гэтага натхнёнага паэта і незвычайнага чалавека", — сцвярджаў ён. Пры ўспаміне пра Купалу, сведчыў Вецлава, "перада мною паўстае вобраз не толькі вялікага дзяржаўнага дзеяча і натхнёнага паэта, але і самага цудоўнага чалавека, сябра ўсяго дзівоснага ў прыродзе, у людзях, у мінулым і сённяшнім свайго народа..."

А. Венцлава прапагандаваў Купалаву паэзію ў Літве: "Я рады, што мне пашчасціла перакласці шэраг цудоўных твораў Янкі Купалы на родную мову", — прызнаваўся ён. Яму належаць пераклады вершаў "А хто там ідзе?", "Я не паэта...", "Арлянятам", "Песня будаўніцтву", "Шляхі" і інш. Гэтыя пераклады друкаваліся ў газетах і часопісах, у анталогіях беларускай паэзіі "З беларускай паэзіі" (1952), "Па Нёмане песня плыве" (1958), у зборніку Купалы на літоўскай мове "Не жалейка стогне" (1957), у кнізе паэтычных перакладаў А. Венцлавы "Блізкія галасы" (1973) і ў іншых выданнях.

У пасляваенныя гады А.Венцлава неаднаразова наведваў Беларусь. У частыдня літоўскай літаратуры на Беларусі ў маі 1958 года ён пабываў у Вязынцы, усклаў кветкі да помніка песняру ў Радашковічах. У Літаратурным музеі паэта ў Мінску яго ўзрадавала карціна літоўскага мастака А. Сургайліса, на якой у нязмушанай гутарцы ўвасоблены Янка Купала і Пятрас Цвірка.

Заўсёды радавалі А. Венцлаву і сустрэчы з Якубам Коласам. Асабліва запамінальнымі засталіся ў памяці спатканні ў Маскве ў 1949 годзе ў час першай Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру. Яны сфатаграфаваліся на памяць, Колас падарыў сябру паэму "Рыбакова хата" з прыхільным надпісам: "Дарагому сабрату Антанасу Венцлаве на памяць".

"Якуб Колас, буйнейшы пісьменнік і грамадскі дзеяч братняга народа, — гаварыў А. Венцлава. — Я шчаслівы, што лёс судзіў і мне некалькі разоў сустрэцца з народным песняром беларусаў, адчуць цеплыню яго сэрца і палюбіць яго".

У снежні 1940 года А. Венцлава меў магчымасць блізка пазнаёміцца з К. Крапівой, які сустракаў літоўскіх паэтаў на мінскім вакзале, а потым апекаваў іх знаходжанне ў беларускай сталіцы. Пазней А. Венцлава пісаў: "К. Крапіва быў чалавекам ціхім і сціплым, яго разумны твар, яго вочы выпраменьвалі сапраўдную народную мудрасць, якая так непасрэдна, з такім жывым гумарам выказвалася ў яговых байках. Як трапна заклеймаваў ён фашыстаў у сваёй байцы "Вол і сляпень" (...) Колькі бліскучага гумару ў байках "Дыпламаваны баран", "Дзед і баба" і іншых! Цудоўна ў творчасці К. Крапівы і тое, што (...) ён умее па-майстэрску карыстацца сакавітым беларускім народным гумарам, трапнасцю яго фразеалогіі".

У пасляваенным Мінску А. Венцлава глядзеў спектакль па камедыі "Пяюць жаваранкі": "Гэта вясёлая п'еса, прасякнутая іскрыстым беларускім гумарам; калі аўтар і аддаў у ёй нязначную даніну пераважнай тады ва ўсёй літаратуры тэндэнцыі прыхарошвання рэчаіснасці, то нельга, мне здаецца, адмаўляць таго, што пісьменніку ўдалося ўзнавіць у сваёй п'есе выразныя характары, праўдзівыя жыццёвыя канфлікты і ўвесь прадстаўлены ў ёй матэрыял напоўніць жывым гумарам, які раз-пораз выклікаў выбухі рогату ў глядзельнай зале. Пасля прагляду гэтай п'есы я яшчэ больш палюбіў талент К. Крапівы, яго разумную ўсмешку, яго здаровы, ачышчальны смех".

Як "паэта вялікага таленту, чалавека са спагадлівым і высакародным сэрцам" успрыняў А. Венцлава Максіма Танка. Ён лічыў М. Танка непаўторным паэтам прыроды роднага краю: "Нёман, цудоўнае возера Нарач, цёмныя лясы, курганы і рэкі, урадлівыя палі, балоты і ўпрыгожаныя квітнеючым верасам пяскі — уся гэтая разнастайная, паэтычная прырода Беларусі ўсхвалена паэтам з вялікай любоўю і пранікліваснцю".

А. Венцлава напісаў успаміны пра свае сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, прысвяціў ім шэраг нарысаў, артыкулаў, нататак, эсэ, якія друкаваліся і перадрукоўваліся ў літоўскіх, беларускіх і рускіх выданнях.

Беларусь таксама помніць А. Венцлаву (1906—1971). Памяць яго ўвасоблена ў артыкулах пра яго ў БелСЭ, ЭЛіМБел, даведніку "Янка Купала". У перакладах П. Броўкі, М. Танка, С. Дзяргая, М. Калачынскага, С. Гаўрусёва, С. Грахоўскага, А. Разанава, М. Татура, В. Шымука і іншых са старонак беларускіх анталогій "Паэты Савецкай Літвы" (1954), "Літоўскія апавяданні" (1957), "Галасы сяброў" (1958), "Літоўская савецкая паэзія" (1971, т. І) гучыць голас літоўскага пісьменніка на беларускай мове.

**Цімох ЛІЯКУМОВІЧ**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 332-204**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7500.
Нумар падпісаны 8.2.1996 г.
Заказ 626/Г

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Грамадзянская вайна — даўніна і сівізна, песня аб былых паходах... Грамадзянская вайна — мітусня і валтузня, дзеляць — не падзеляцца народы...

●

Спілілі ліпу на дровы, перапалілі ў попел, попелам закідалі ямку, пасадзілі ліпку. Расці, ліпка, вялікая, у спёку дай прахалоду, хай гнездзяцца ў кроне птушкі, ляцяць на мёд пчолы, радуюцца людзі. Што значыць — калі гэта будзе?

●

"Занадта прамы чарвяк, — падумаў пра цвік шпак, — нетрадыцыйная плешка". І дзяўбнуў у спешцы. Вучыць цяпер сямейных не звязвацца з просталінейнымі.

●

Дзівакі гэтыя турысты. Падчас наведвання завода адзін прызнаў станок, на якім працаваў пасля вайны, аднаўляючы цэх. Ну і што! Станок хоць і дарэвалюцыйны, а рыпіць. Ёсць і іншыя такія. У нас не тэхніка, кадры дасюль рашаюць усё!

●

Колькі прозваў дала нам Айчына — літвакі, літоўцы, літвіны. Мы ад альфы і да амегі Чартарыйскія і Сапегі, Радзівілы, Агінскія, Пацы — генафонд не адной толькі нацыі. Гэта мы ў дзяржаве Маскоўскай Дастаеўскія і Твардоўскія. Нават недзе за акіянам наш зямляк узначальваў парламент. Божа літасцівы, барані беларускія карані!

●

"Не веру!" — з гэтага *можна было б зрабіць веру*, каб знайшліся вернікі.

●

Савок робіць, як кажуць: трэба запэцкаць — мажа, трэба ўзняць — уздымае, сваёй думкі не мае. Але ж і мянушку савок прыдумаў сабе знарок. Значыць, нешта бачыць. А той, хто не страціў зрок, не такі ўжо й савок, можа, і перайначыцца?

●

— Якія цяпер люстэркі, — скардзілася пенсіянерка, — у тых, у ранейшых, і я была прыгажэйшая...

Узгадваю старую, калі ветэраны маніфестуюць. Нясуць нейкія паперкі, а ў вачах тыя ж люстэркі.

●

Казка пра голага караля, які ў няведанні памёр, але пакінуў нешта нашчадкам — музей свайго неіснуючага адзення.

●

Украінцы, як мы, — двухмоўныя, разумеюць па-руску, а размаўляюць на роднай. Мы, нечым падобныя, але — дзеці прымусу — разумеем родную, а размаўляем па-руску.

●

Міліцыя раіць: калі ў пад'ездзе на вас нападаюць, крычаць не "Ратуйце", а крычаць "Пажар", не ўскладаць на іншых свой цяжар. Міліцыя знае, як дзверы зачыняюць.

●

Цар прыроды? На п'едэстал я б усё ж не пускаў асобных, хай усе мы паходзім з малп, ды не ўсе — з чалавекападобных.



**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне доктару мастацтвазнаўства, прафесару САБАЛЕЎСКАМУ Анатолю Вікенцьевічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці маці.**

**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне намесніку міністра культуры і друку РЫЛАТКУ Уладзіміру Пятровічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю бацькі.**

**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне народнаму артысту СССР, мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага эстраднага ансамбля "Песняры" МУЛЯВІНУ Уладзіміру Георгіевічу ў сувязі з заўчаснай смерцю сястры Наталлі.**